# ЗЬМЕСТ.



---

1-я Дзярж. друкарня. Заказ № 1484 Галоўлітбел № 24228

Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# ПЛУГ

Месячная навукова-популярная сельска-гаспадарчая часопісь.

III год выданьня Люты 1927 г. № 2



## Гаспадарка, якая вырашыла кармовае пытаньне, можа лічыцца культурнай.

Правільнае вырашэньне кармовага пытаньня—трудная задача сялянскай гаспадаркі. Пры трохпалёвай сыстэме гаспадараньня, якая трымалася ў нас стагодзьдзямі, селяніну бадай стыхійна прыходзілася ў першую чаргу думаць аб прыдбаньні прадуктаў для харчаваньня сям'і, а пра скаціну і гутаркі ня было; яна з году ў год недаядала. І гэта было ўжо быццам звычайнай зьявай. Толькі час ад часу ўжо поўная бяскорміцца, ад якой дохла скаціна, або неабходнасьць прадаваць яе за паўцаны, прымушала селяніна заранеі паруліцца аб корме—браць у пана балота на другую ці трэцюю капу, лезьці ў кабалу і г. д. бо пры царскім ладзе другога выйсьця селянін ня бачыў.

Зараз-жа Савецкая Улада цэлым шэрагам мерапрыемстваў стварыла і стварае належныя ўмовы для вырашэньня кармовага пытаньня, як асновы для пабудовы даходнай гаспадаркі. Праводзіцца асушка балот і санажацяй, каб узьняць там ураджай сена, праводзіцца земляўпарадкаваньне і данадзяленьне зямлёю, замест трохпалёўкі ўводзіцца пладазьмен (шматпольле) з пасевам траў і г. д.

Усе гэтыя крокі ў шмат якіх гаспадарках, а то і цэлых раёнах ужо далі добрыя вынікі. Запасы корму штогод значна павялічваліся, але наша гаспадарка яшчэ далёка ад поўнага вырашэньня кармовага пытаньня. І зараз лічбы статыстыкі гавораць, што ў сярэднім на Беларусі конь у селяніна палучае толькі 71,7%, а карова 49,7% патрэбнага ім корму, або ў кармовых адзінках конь палучае 8,6 кармовых адзінках (замест 12) і карова—4,72 кармовых адзінак (замест 10,5) *). Вядомая рэч, што тут карове не да малака. Ды і практыка малочнай жывёлагадоўлі гаворыць, што *дрэнна карміць—адна страта*, бо гноём карова корму не аплаціць.

Гісторыя кармовага пытаньня ў Заходня-Эўрапэйскіх краінах сьведчыць, што і там стварэньне даходнай і культурнай гаспадаркі пачыналі з корму для скаціны. І там пачыналі з палепшаньня санажаці, палявога травасеву і пасеву караньплодаў на полі.

Пасеў караньплодаў да разьмеру аднэй зьмены шматпалёвага севазвароту меў і там выключнае значэньне. Спашлюся тут на праф. *В. Р. Вільямса*, які кажа, што ў Заходняй Эўропе вырашэньне гострай і вялікай патрэбы ў корме і спыненьне выпасу скаціны вясною на значных плошчах магло здарыцца толькі дзякуючы ўвядзеньню ў севазварот кармовых расьлін. У розных краінах тут былі і розныя расьліны—



*) Лічбы ўзяты з працы В. Бабіцкага—„Производственные минимумы в крестьянском хозяйстве". Изд. НКЗ 1927 г.

у Англіі кармовая рэпа, у Францыі—люцэрна, у Швэцыі гэту ролю ўзяла на сябе бручка [1]), у Нямеччыне—кармовыя буракі“.

Якая расьліна адыграла гэту ролю ў нас (буракі, бручка ці турнэпс), зараз вырашаць ня будзем, але бясспрэчна адно, што караньплоды і ў нас маюць самыя спрыяючыя ўмовы для пашырэньня. Аб усім гэтым вельмі выразна сьведчаць амаль усе спробы сеяць караньплоды. Шмат хто з сялян-дасьледчыкаў палучаў сярэдні ўраджай караньплодаў у 1000-3000 п. Тыя-ж вынікі паказваюць і амаль усе паказальныя вучасткі аграномаў на сялянскіх палосках.

Гэтых вопытаў з караньплодамі ў 1926 г. было закладзена каля 750. Амаль усюды ўраджай караньплодаў быў ня менш 1000 пуд., а дасягаў звыш 4000 пуд. на дзесяціну. У Случчыне былі выпадкі, што аграномы складалі акты ў час прыборкі ўраджаю караньплодаў, бо так ніхто ня верыў-бы ўраджаю ў 6000 пуд.

Чым жа тлумачыць такую розьніцу ва ўраджаі караньплодаў? Прычына бадай адна. Караньплоды ў нас—маладая расьліна, яшчэ мала сялян умеюць яе сеяць, даглядаць, а таксама вырабіць поле і яго ўгнойваць; ды і насеньне ў нас было прывазное і часта дрэннае.

Вось чаму трэба вывучаць гэту маладую культуру кожнаму селяніну, трэба пашыраць плошчу пад караньплодамі ў пяць шэсьць разоў.

У 1925 г. пад караньплодамі ў 10 акр. БССР было занята каля 1500 дзес., у 1926 г. ўжо па 60 раёнах гэта лічба павялічваецца да 3365 дзес., а па БССР да 5500 дзес. Як бачым, рост значны (праца аграномаў прыметна), але для вырашэньня кармовага пытаньня гэта мала.

К вясне бягучага году дзяржава прымае крокі, каб караньплоды адваявалі сабе належнае месца ў кожнай гаспадарцы селяніна. Будуць пашыраны паказальныя вучасткі з караньплодамі; у тры разы закуплена больш насеньня і разам з угнаеньнямі яно ў час будзе дастаўлена ў раёны і г. д.[2])

Аб карысьці кораняплодаў, спосабах пасеву, дагляду і ўраджаях ужо шмат разоў пісалася ў „Плугу“. Пажадана толькі, каб караньплоднае, як і кармовае пытаньне, наогул, было загадзя прадумана кожным гаспадаром-селянінам. Няхай на полі вясною побач з бульбай знойдуць сабе месца і караньплоды (буракі, бручка турнэпс, морква).

Сельска-гаспадарчым гуртком, хатам-чытальням і тысячам культурных сялян трэба ўзяцца за пашырэньне караньплодаў у кожнай сялянскай гаспадарцы [3]).

Корм—аснова жывёлагадоўлі. Караньплоды ў корме—культурная адзнака гаспадаркі.

**С. Тупяневіч.**

---

[1]) У Швэцыі даволі халодная зіма, якая не дазваляе перахоўваць да вясны буракі ў зямлі.

[2]) Аградзел Наркамзему падрыхтоўвае матар'ялы для агалашэньня конкурса на лепшую культуру караньплодаў 1927 г.

[3]) У гэтым нумары „Плуга“ зьмяшчаецца шмат матар'ялу па караньплодам таму, што наступны нумар будзе прызначаны другім пытаньням пасеўнай кампаніі вясною. (Рэд).




## Лясная гаспадарка Беларусі ў даваенны час.

Глеба і клімат Беларусі спрыяюць росту дрэўнай расьліннасьці. Беларусь з даўнейшых часоў вядома па сваіх глухіх лясох, дзе было шмат зьвяроў і птушак.

Але з разьвіцьцём сусьветнае гаспадаркі (у другой палове мінулага стагодзьдзя), на лес зьявіўся ў Беларусі значны попыт, як з боку замежных дзяржаў (Нямеччыны), так і з боку Украіны.

Дзяржаўных-жа лясоў, дзе вялася-б плянавая гаспадарка, у той час было ня болей 10 проц., а рэшта лесу амаль уся была панская. Вось чаму са зьяўленьнем вялікага попыту на драўніну, пачалося драпежніцкае зьнішчэньне лесу—галоўнага багацьця Беларусі. Гэтаму многа памагала яшчэ і тое, што Беларусь знаходзіцца блізка каля Заходняй мяжы і мае ня мала сплаўных рэк і рэчак водазбору Заходняй Дзьвіны, Нёману і Дняпра.

Зямля з-пад панскага лесу пераходзіла прадавалася сялянству. А думак аб тым, што высячаныя прасторы трэба зноў скарыстаць пад лес, ня было.

Ад такой „гаспадарчай працы“ паноў у лесе сталася тое, што калі па перапісу 1887 г. па 3 беларускіх губэрнях (Менскай, Магілеўскай і Віцебскай( яшчэ лясамі было пакрыта 41,4 проц. усёй плошчы, то ўжо ў 1907 годзе лесу было толькі 30,9 проц., а гэта значыцца, што за 20 год плошча лясоў зьменшылася на цэлую чвэрць.

Якая-ж колькасьць драўніны высякалася штогодна з лясоў Беларусі? На гэта пытаньне дакладна адказаць трудна але па прыблізнаму падліку Кіраўніцтва Лясамі НКЗ, можна сказаць, што з аднаго гэктару выгаднай лясной плошчы высякалася каля 4 куб. мэтраў драўніны. У Нямеччыне-ж, дзе патрэба ў драўніне куды большая, чым у нас і дзе лясная гаспадарка вядзецца прыкладна, дзе ні адзін пень не прападае дарма і то з 1 гэкт. высякалася ня болей 4 куб. мэтраў.

У канцы мінулага стагодзьдзя дрэнныя адносіны да лесу выявіліся так відавочна, што нават і царская ўлада прымушана была распрацаваць цэлы шэраг мерапрыемстваў дзеля аховы лясоў.

Толькі гэта ня спыніла зьнішчэньня лясных багацьцяў Беларусі, бо Лесаахоўчы Камітэт складаўся найбольш з заможных земляўласьнікаў, якія дазвалялі сабе не спаўняць законаў „на законнай падставе“.

Асабліва шпаркім крокам пайшло зьнішчэньне лясоў пасьля Рэволюцыі 1905 году, калі паны пачулі, што глеба пад іх нагамі ня зусім цьвёрдая.

Як жа разьмяркоўвалася лясная плошча па роду ўладаньня, або каму належалі лясы трох беларускіх губэрняў па даным 1907 г. Тады было дзяржаўных лясоў 712.000 гэктараў або 12,6 проц.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| панскіх | „ | 4.558.000 | „ | „ 80,5 „ |
| сялянскіх | „ | 265.000 | „ | „ 4,6 „ |
| і іншых | „ | 131.000 | „ | „ 2,3 „ |
| Усяго | . . . | 5.667.000 | гэкт. | 100 проц. |

Як бачым, галоўнае значэньне ў даваенны час мелі панскія лясы. Казённыя лясы былі ўсе падзелены на дачы, і лясьніцтвы, у іх вялася плянавая гаспадарка.

Адміністрацыя і варта лясьніцтваў была прыблізна ў такой-жа колькасьці ў кожным лясьніцтве, як і ў наш час...

З боку таго, які прыбытак давала лясная гаспадарка і колькі на яе трацілася, то трэба адзначыць, што царскі ўрад кіраваў так, каб з лясоў узяць найбольшы прыбытак і мець найменшы расход. Гэта відаць з таго, што ў 1913 г. 1 гэкт. лясной плошчы дзяржаўных лясоў даваў прыбытку 9 р. 66 к., а расход на 1 гэкт. быў раўным 1 р. 87 к., гэта значыць расход складаў 19,4 проц. ад прыбытку; большая-ж частка ішла на выплату пэнсіі, земскія зборы і дужа мала на лясныя працы, як асушка балот, правядзеньне добрых дарог і г. д.

Зусім іншая справа была ў той-жа час у Нямеччыне, дзе на лясную гаспадарку трацілася 40—50 проц. ад прыбытку.

Цяпер відавочна, чаму ў нашых лясох сярэдні прырост на 1 гэкт. лясной плошчы дае толькі 2,1 куб. мэтр. драўніны, тады як у Нямеччыне ён даходзіць да 4 куб. мэтраў.

**М. Мяльлянаў.**

---

# Ліставыя пароды.

Ліствовымі пародамі завуцца ў нас тыя лясныя пароды, якія ўвосень скідаюць на зіму сваё лісьце, а вясной зноў распускаюцца. Гэтым яны адрозьніваюцца ад хвойных парод. Апрача таго, хвойныя пароды маюць насеньне голае, зьмешчанае большасьцю ў шышках, у ліставых пародах насеньне бывае пакрыта скурай. Драўніна ліставых парод мае зусім другі склад: у ёй адсутнічаюць смаляныя ходы, не такая правільная слаістасьць і г. д. У Беларусі ліставыя лясы растуць больш у паўднёвай частцы ў акругах Бабруйскай, Калінінскай, Мазырскай, Слуцкай і займаюць ад 40—50 проц. лясной плошчы, а ў астатніх акругах (на поўнач) іх менш, ад 10—25 проц. Гэта сьведчыць, што яны больш уважаюць цяплыню і вільгаць, чым хвойныя.

1. Дуб. Як вядома, дуб належыць да самых даражэйшых лясных парод ня толькі беларускіх, але і чужаземных. Самыя меншыя дубы растуць на поўдні і на сярэдзіне тэрыторыі ўсяго Савецкага Саюзу. Сустракаецца найчасьцей у мешаных дрэвастанах, дзе выходзяць гладкія, простыя і тоўстыя ствалы. Дубовая драўніна па сваёй моцы, і доўгавечнасьці перавышае ўсе лясныя пароды, якія сустракаюцца ў нашым клімаце. Яна цьвёрдая, гнуткая, цяжкая, правільна колецца і мала ўсыхае (2—3 проц.) у сваім складзе мае як-бы шырокія трубачкі, (сасуды), дрэнна габлюецца і палітуруецца. З гэтай прычыны дубовыя

кавалкі могуць карабіцца і трэскацца. Драўніна дуба цяжкая і ў вадзе ідзе на дно; з гэтай прычыны дуб ня сплаўляюць па рэчках. Патануўшы дуб ляжыць на дне ракі дзесяткі год і не псуецца, а толькі прымае чорны колер. Чорны дуб дорага каштуе.

Зрэзаўшы дуб можна адразу пазнаць добрую якасьць яго драўніны: калі гадовыя слаі вузкія і сітаватыя, то яны мяккія (ад значнага вялікага ліку сасудаў). Такая драўніна ня моцная. На пні зрэзанага дубу відаць цямнейшага колеру стрыжань і белая абалона. Сітаватасьць, абалоністасьць і інш. хібы драўніны дуба залежаць ад дрэнных умоў жыцьця дрэва, глебы і інш., а таксама і ад узросту дуба. Лепшай сьпеласьцю дуба на розныя вырабы спэцыялісты-майстры лічаць узрост ад 80 да 160 год. Кажуць, што пасьля двухсот год дуб робіцца слабы ў нашай мясьцовасьці, але ў старых дубровах мне сустракаліся досыць здаровыя дубы, маючыя больш за 300 год.

Вялікая каштоўнасьць дубовае драўніны залежыць галоўным чынам, ад таго, што яна вельмі моцна/ляжыць, як на паветры, так і ў вадзе. Гэта моцнасьць залежыць з аднаго боку ад самага складу драўніны, а з другога ад таго, што яна зьмяшчае ў сваім складзе шмат гарбарнай матэрыі, якая кансэрвуе драўніну дуба. У вырабах з дубу, дзе трэба зьбіваць шрубамі ці клямарамі, жалеза ад гарбарнай матэрыі хутка ржавее. Каб гэтага пазбавіцца, усе жалезныя прылады хварбуюць, але ў гаспадарцы не заўсёды ёсьць хварба да і клопату з ёй шмат. У такім выпадку можна забіваць жалезныя прылады добра загартаванымі, ад чаго дубіна абвугліцца і клямар ня будзе іржавець. Дзякуючы моцнасьці, дуб незаменны пры пабудове ў вільготных мясцох мастоў, вадзяных млыноў, заставак, скляпоў і інш.

Агледзім будынак нашага селяніна. Бяз дубу селянін не абыдзецца: падрубы (першы вянок) і штандары замест падмурку кожны стараецца зрабіць дубовыя. Студні ўсе робяць з дубу. Можна сьмела сказаць, што большая палова людзей езьдзіць яшчэ і зараз на дубовых восях і палазох. Сьпіцы ў колы робяць толькі дубовыя. Немагчыма нават пералічыць пабудовы ці вырабу ў гаспадарцы, дзе-б не знаходзіўся дубовы кавалачак.

Тэхніка таксама прад'яўляе вялікія запатрабаваньні на дубовую драўніну. Ня гэтак даўно думалі, што мэталь, асабліва нядаўна знойдзены алюмін—і яго сплавы, заменяць у тэхніцы цьвёрдыя лясныя пароды, як дуб і ясень, але аказалася ня тое, і да гэтага часу караблёвае будаўніцтва і машыннае будаўніцтва патрабуюць мільёны кубічных мэтраў такой драўніны, як дубовая і ясянёвая. Да вайны адны чыгуначныя майстэрні штогод ужывалі мільёны штук вагоначных брусоў; амаль столькі-ж ішло заграніцу. Пералічыўшы гэта на лясную плошчу, маем каля 50 тысяч дзес. найлепшага адборнага лесу.

Лепшым незаменным матар'ялам дуб лічыцца ў бандарцы. Усяму сьвету вядома дубовая клёпка. Клёпкай з даўных часоў мы гандлюем з чужаземнымі дзяржавамі і нашы лясы адбываюць клёпкавую павіннасьць перад Заходняй Эўропай, асабліва Францыяй з старадаўней пары.

Вядомае францускае віно—шампанскае трымаюць у бочках з нашай клёпкі. Вядомая гарэлка—старка прымае асобны смак і пах, калі сьпірытус трымаецца дзесяткі год у дубовых бочках.

З дубовых жалудоў, мяшаючы іх з ячменем, робяць досыць смачную каву, а жалудоваю мукой кормяць сьвіней. Сьвіням чыстых жалудоў ці мукі з іх шмат даваць ня варта, бо яны (жалуды) зьмяшчаюць у сваім складзе шмат тэй самай гарбарнай матэрыі, а яна можа шкод-

на адбіцца на вантробах жывёлы. Трэба мяшаць жалудовую муку з аўсянай мукой і бульбай.

Адным словам, дуб мае для нас выключную каштоўнасьць, чаму зразумела высокая на яго і цана.

Пры скарыстаньні дубовае лесасекі трэба мець вялікі вопыт і трэба даглядаць, каб быў скарыстаны кожны кавалачак. Часта ў нас бывае, што каштоўнейшы матар'ял накіруюць зусім ня туды, куды належыць. Бываюць выпадкі, што надта добры клёпачны ці абадны дуб рэжуць на дровы ці клёпку; брус, ванчэс робяць з таго матар'ялу, які гадзіцца толькі ў дровы.

Трэба помніць, што дуб вельмі пяшчотная парода, выгадаваць яго вельмі трудна і марудна. Шула ці слуп на вароты можа вырасьці праз 80—100 год. Разводзіцца ён толькі жалудамі. Паросткавы дубок можа вырасьці толькі з маладога пянька, але будзе крывы і хутка загніецца. Шмат клопату трэба, каб выгадаваць дуб: ён баіцца цені, марозу і сонцасьпёку; яго трэба „асьвятляць", каб не заглушылі другія пароды. Ніводная лясная парода не баіцца так патравы скацінаю, як дуб. Абы скусіла карова яго вяршынку, ён замарнее, пусьціць гольле ў бакі і будзе дрэнным, карамзатым. Вось чаму трэба забараняць пасьбу скаціны ў дубовых маладнякох.

Дубовы лес надта лёгка зьнішчыць, але трудна дачакацца, пакуль ён зноў вырасьце. Шануйце-ж дубкі!

**М. Шалупенка.**

# Аб лесе мясцовага значэньня.

Для вёскі Лебядзёўкі, пасёлка „Янаўка" і Лебядзёўскіх хутароў было перадана дзяржавай 80 дзес. лесу, з якога каля 20 дзес. было высячана яшчэ тады, калі лес быў ў лясьніцтве, адна дзес. лесу была высечана ўжо намі па пляну зімою мінулага году і адну дзес. мецілі высеч у гэту зіму (адна дзес. у нас можа здымацца штогод); апрача таго, бывае буралом і сухастой, які таксама высекаецца і разьмяркоўваецца паміж сялян-пайшчыкаў.

З гэтага выходзіць, што як год, то дзесяціны лесу і няма, а ці пасеялі мы хоць адно дзераўца? Вядома, што не. Праз 30-40 год ад нашага лесу ня будзе і пнёў, хоць цяпер мы жывём каля лесу і маем дровы па весу.

Вось на гэта *належным установам і трэба зьвярнуць увагу і даць напрамак, каб лес ня толькі па пляну высякаўся, але каб па пляну і гадаваўся.*

У мінулым годзе, калі мы высякалі першую дзялянку, то ўпаўнаважаны леса мясцовага значэньня казаў, што вясной гэту дзялянку абгародзім, каб ніякая жывёла там не хадзіла. Але скора будзем сеч ужо і другую дзялянку (дзесяціну), а першая яшчэ неабгароджаная. Маладзенькіх дрэўцаў хоць і ня сеялі, а яны самі па сабе мінулым летам павысоўвалі галоўкі, але скаціна іх пазьядала і яны згінулі.

Мая прапанова — *высячаныя дзялянкі, калі не засяваюць, то неабходна іх абгароджваць, каб туды не магла заходзіць скаціна.*

Што-ж датычыць тэй плошчы ў 20 дзес., якая была высечана раней і якую ўжо некалькі год аром, а цяпер з пераходам лесу ў мясцовае значэньне, сяляне разьмяркавалі па маленькай крошатцы і ня вядома дакуль будуць араць. Я думаю, што яе неабходна абгарадзіць і якім-небудзь спосабам засеяць. Напрыклад, у нас 120 паёў (двароў,

якія маюць права на карыстаньне лесам). Нам трэба сабраць з кожнага пая па $^1/_4$ хунта хваёвага ці яловага насеньня і па 1 пуду жалудоў, каб мець 30 хунтаў насеньня хвойкі і елкі і 120 пудоў дуба. Думаю, што такой колькасьці насеньня хваціць на плошчу ў 20 дзес. (6 пудоў жалудоў і $1^1/_2$ хун. чырвона-ляснога насеньня на кожную дзес.)*). К гэтаму трэба яшчэ дадаць самасеў.

Глеба-жа там такая, што будзе мешаны лес: хвоя, елка, дуб, бяроза і асіна. Але яшчэ раз трэба адзначыць, што абгарадзіць неабходна і абгародкі трымаць у належным парадку да таго часу, пакуль малады лясок падымецца.

Вось такім чынам мы можам забясьпечыць сябе лесам і штогод будзем высякаць яго па 1 дзес. і ніколі ня высячам.

А здабыць насеньне справа ня хітрая. Жалуды ўсякі ведае, і што іх трэба зьбіраць увосень пад дубам, а насеньне хвоі і елкі трохі па іншаму зьбіраецца. Трэба нарваць яловых ці хваёвых шышак (рваць іх можна з кастрычніка па красавік), насыпаць да $^1/_3$ мяшка, завязаць і павесіць над печчу, каб яны добра высахлі, а як высахнуць то яны парастрэскваюцца і частка насеньня вытрусіцца. Каб дастаць усё насеньне, то трэба шышкі з мяшка перасыпаць у кошык, і час ад часу трусіць: зярняткі высыплюцца з кошыка, а шышкі застануцца. Зярняткі трэба сабраць і добра перацерці і правеяць, бо яны з крыльцамі. Палучацца чыстыя чорненькія і шэранькія зарняткі хвоі і елкі. Памойму здабыць насеньня ня цяжка, ня цяжка і абгарадзіць. Найбольш, калі прыдзецца абгарадзіць на кожны пай па 25 саж., а на 120 паёў— 3.000 саж., або папрацаваць кожнаму селяніну 3-4 гадзіны. Матар'яла-ж на гэту справу знойдзецца, бо па лесу ёсьць шмат нягодных дрэўцаў з малым прыростам. На абгарожу іх і можна скарыстаць. Бяз лесу ў беларускіх умовах ня будзе жыцьця.

Селянін **Янка Судак**.

# Ліст да Рэдакцыі.

Селянін А. Карнейчык у № 12 „Плугу“ (1926) закрануў вельмі важнае і карыснае для сялян пытаньне „Як зрабіць жывую абгародку“. Але падыход у яго да тых дрэў, якія ён раіць ужываць на абгародку, бадай, сялянскі, чаму і лічу патрэбным на гэта зьвярнуць увагу.

Аўтар раіць вырываць елачкі вясною з зямлі нават бяз рыдлёўкі. Трэба ведаць, што пры гэтым адрываюцца каранёвыя махрачкі, якія і прымаюцца пасьля перасадкі. Бяз гэтага прымаецца малы процант пасаджаных дрэў. Папаўняць-жа пасьля пасадку—лішняя праца і ня так спадручна.

Лепш садзіць 2-х гадовыя і ня больш трохгадовыя елачкі. Таксама лепш садзіць гусьцей паўаршына, каб праз абгародкі не магло праціснуцца парася і нават курыца. Добра бакавыя радкі засадзіць калючымі расьлінамі, як баярышнік і інш.

Наогул-жа вельмі пахвальна, што такія пытаньні ўздымаюць сяляне. Жывыя абгародкі вельмі цікавы і прыгожы.

Нямецкая лясная літаратура раіць садзіць елку на жывую абгародку не вясною, а ў сярэдзіне лета. У нас была зроблена такая спроба ў Цэльскім Л-ве Бабр. акр. У выніку вырасла вельмі добрая яловая абгародка.

Лесавод **М. Шалупенка**.

---

*) Норма, якую паказвае аўтар, трохі замала (Рэд.).

# Жывёлагадоўля



## Як з цяляці выгадаваць карысную жывёлу.

І чалавек і жывёла ў пачатку свайго жыцьця для нармальнага росту патрабуе лепшых умоў, чым старая жывёла ці дарослы чалавек. Для жывёлы ўмовы гадоўлі выяўляюць яе прадукцыйнасьць на ўсё жыцьцё. Перш усяго трэба памятаць, што правільны спосаб гадоўлі цялят у малочным жывёлаводзтве—гэта выпайка, а не прыпусканьне пад карову, што дапускаецца ў мясным і рабочым напрамку жывёлагадоўлі. Пры гадоўлі цяляці пад каровай гаспадар заўсёды губляе частку удоя за тым, што карова робіцца несупакойнай, затрымлівае малако і ня пушчае даіць, а таксама і цяля ў час разлукі непакоіцца.

Пры правільнай гадоўлі, як толькі ацялілася карова і аблізала цяля, то іх трэба разлучыць і цяля трымаць у цёплым і сьветлым хлеве, дзе чыстае паветра і няма скразьняку. Малако даюць цяляці па жывой вазе: *для бычка шостую частку вагі*, калі бычок важыць 24 кгр. (60 хун), дык даюць малака 4 кгр. (10 хун.) у дзень, а цёлцы пятую частку яе вагі; разам з узростам вагі павялічваюць і корм.

Малако трэба даваць абавязкова ў чыстай пасудзе і такой цяплыні, якую мае малако пры даеньні каровы. Карміць трэба ня меней, як тры разы, а з пачатку і 4 разы ў дзень.

З *3-га тыдня* цяляці пачынаюць даваць каля 1-го кгр. (2-3 хун.) добрага лугавога сена.

З *4-га тыдня* пачынаюць прымешваць к няздыманаму малаку здыманае ці адгон малочнай арцелі, падагрэўшы яго да $15^0$. Здыманае малако прымешваюць з такім разрахункам, каб пасьля 8-мі тыдняў даваць толькі здыманае.

З падменам няздыманага малака здыманым к дняўной дачы прыбаўляюць перш $^1/_2$ кгр. ($1$-$1^1/_2$ х.), а потым і 1 кгр. (2-3 х.), аўса і прымешваюць к малаку ільнянога адвару.

*Пры ўзросьце* 3 *мес.* дняўная дача цяляці будзе 1 кгр. (2½ х.), лугавога сена, 3 кгр. (7½ х.) адвару ці сывараткі, каля 1 кгр. (2-3 х.), аўса і $^1/_4$ кгр. (½-1 х.) ільнянога насеньня.

*Пры ўзросьце 4-6 мес.* даецца—2 кгр. (5 х.) лугавога сена, 1 кгр. (2½ х.) аўса, 4-5 кгр. (10-13 х.) бульбы і $^1/_2$ кгр. ($1^1/_4$—$1^1/_2$ х.) макухі.

*Пры ўзросьце 7-12 мес.* даецца 4 кгр. (10 х.) лугавога сена, 2 кгр. (5 х.) яравой саломы, 4-5 кгр. (10-13 х.) бульбы ці буракоў, 1 кгр. ($2^1/_2$ х.) аўса ці ячменю і столькі макухі.

Паказаны корм разьмяркоўваецца на 2-3 разы ў дзень. Яшчэ адно трэба помніць гаспадару, што цяляці патрэбен і добры догляд. Старая прыказка тут мае поўную сілу, што „бяз добрага догляду няма і прыплоду“.

Райаграном **Батальскі.**

---

# Як даглядаць жарабят зімою.

Амаль кожнаму селяніну даводзіцца гадаваць жарабят бяз маткі, купленых увосень, альбо і ад сваёй кабылы.

Жарабяці абавязкова трэба адгарадзіць у хляве пры конях катух, ня менш $5^1/_2$ арш. удоўшкі і 5 арш. ушыркі. Пры сьцяне трэба зрабіць ясьлі або кармушку даўжынёю $1^3/_4$, шырынёю 12 вярш. і глыбінёй вяршкоў 6. Ясьлі пакрываюцца драбінаю, праз якую можа пралесьці галава жарабяці. Ставіць гэту кармушку трэба абавязкова ня менш 1 арш. і 2 вярш. ад зямлі.

Карміць жарабя трэба мурожным сенам 3 разы ў суткі (па $4^1/_2$ х.), даваць пойла куды ўваходзіць 1 хун. аржаной мукі і $1^1/_2$ хун. аўсянай. Пойла трэба даваць днём.

Далей, жарабя трэба кожны дзень чысьціць, каб не заводзіліся ў шэрсьці вошы, якія вельмі непакояць жывёлу, ад чаго яна скрабецца аб плот, сьцяну і інш. Дзеля гэтага-ж жарабяці лепш абстрыгаць хвост і грыву. Выпускаць жарабят трэба на гарод, ці браць з сабою ў дарогу, каб жарабя бегала. Пасьля прагулкі жарабя есьць добра корм.

Падсьцілаць жарабя трэба праз кожныя 3 дні, а ў вялікі мароз праз 4 дні, каб ня жаваліся капыты.

Нашы сяляне ня прывучаюць жарабяці да хамута. Гэта ня вельмі добра, бо ва ўзросьце 3-4 год цяжка прывучаць да хамута, запрагаць у калёсы і інш.

Я раю прывучаць жарабя надзяваць хамут з маленства кожнаму гаспадару, які гадуе жарабят[1]).

Сел.-практык **А. Сьцяжко.**

---

# Чаму трэба замяняць адзін корм другім.

Я малады гаспадар жыву на гаспадарцы і бачу, як сяляне часта мучаць сваю жывёлу, няўмеючы яе карміць. Пры лішках саломістага корму гаспадар траціць яго без карысьці: дае жывёле аб'ёмістага корму столькі, што ён пачынае шкодзіць на жывот. А прыдзе вясна, то і на жывёлу страшна глядзець: яна худая і слабая. Чаму-ж гэта так? Зробім падлік корму па прадукцыйнасьці. Аказваецца, што замучаная жывёла корму зьела больш, чым ёй патрэбна было, але яна ня бачыла спажыўнага корму і чахла.

Калі гаспадар ведае, якога і колькі даць корму жывёле, то ён падлічыць корм і па вазе і па рыначнай цане ў кармовых адзінках. Такі гаспадар і жывёлу пракорміць дзешавей і яна будзе лепшай.

З другога боку хлеў гаспадар пастараецца зрабіць цёплым і сьветлым, бо і гэта эканоміць корм.

---

[1]) У „Плугу“ № 12 арт. „Як даглядаць зімою авечкі“ належыць А. Сьцяжко. (*Рэд.*).

Саломісты корм часта можна замяніць на спажыўны (макуха, вотрубі). Я пакажу колькі і якога корму каштавала адна адзінка на Менскім рынку ў палове сьнежня 1926 г.

| КОРМ | Цана 1 пуд. | Колькі х. у 1 кар. адзін. | Кошт адзінкі. |
|---|---|---|---|
| Сена . . | 80 кап. | 4 хун. | 8 кап. |
| Салома . . | 40—50 „ | 5—6 „ | 6 „ |
| Вотрубі . . | 80—85 „ | 1 „ | $2^1/_8$ „ |
| Макуха . . | 1 р. 25 „ | $^3/_4$ „ | $2^3/_4$ „ |
| Бульба . . | 30 „ | 4 „ | 3 „ |

Тут каждаму відаць, якая розьніца ў корме па прадукцыйнасьці і па цане на рынку. У бягучым годзе якраз саломісты корм на многа даражэй спажыўных (амаль ня ў 2—3 разы); загэтым той гаспадар, які мае лішкі саломістага корму, можа лёгка замяніць яго спажыўным. Для жывёлы гэта дасьць нават больш корму і ня будзе мучыць яе, як адзін саломісты корм.

Трэба, каб нашы гаспадары навучыліся карміць жывёлу па нормах, бо нормы толькі і вывядуць гаспадарку на правільную дарогу.

(Сьмілаўскі р.). Сел. **К. Запольскі.**

---

# Кармленьне жывёлы мякінаю.

Ня гледзячы на сваю малую прадукцыйнасьць, мякіна ў кармовых адносінах займае не малую ролю ў нашых гаспадарках. Карміць мякінаю добра там, дзе адчуваецца нястача больш спажыўнага корму.

Мякіна састаіць з абалонак каласоў і нядасьпеўшых зярнят. Акрамя гэтага мякіна мае шмат пылу і зямлі і ад гэтага яна губляе сваю каштоўнасьць, як корм.

Даюць часьцей мякіну сьвіньням і каровам, даюць яе разам з другім больш каштоўным ці спажыўным кормам, як бульба, макуха і вотрубі. Пыл мякіны часта набівае аскоміну жывёле, пападаючы ў горла і лёгкія, выклікае кашаль і запаленьне лёгкіх. Каб гэта не здарылася, трэба мякіну перад спажываньнем перасейваць на арфе і змочваць вадою. Замест намочваньня яе можна запарваць. Сухую мякіну ні ў якім разе даваць ня трэба. Запарваньне мякіны мае надзвычайна вялікае значэньне: ад гэтага яна робіцца смачнейшай, лепш ператраўліваецца, чым не запараная. К мякіне трэба прыбаўляць солі, ад чаго мякіна бывае яшчэ смачнейшай.

Даюць мякіны ў суткі—коням 5—9 хун., буйнай рагатай жывёле 10—20 хун., пры чым малочным каровам даецца толькі да 10 хун., бо ад мякіны малако паніжае сваю якасьць; авечкам даецца—$1^1/_2$—2 хун. і сьвіньням 2—3 хун.

Ад розных расьлін мякіна мае не аднолькавую вартасьць; лепшай мякінай лічыцца грэцкая, ільняная і матыльковых расьлін. Мякіна жыта і пшаніцы цьвердая і лёгка набівае аскому жывёле. Ячная мякіна самая дрэнная, бо яна мае доўгія вусы, што можа выклікаць у жывёлы колькі, а часта і сьмерць; акрамя таго, ячная мякіна вызывае запаленьне сьлізістае абалонкі ў роце. Асабліва далікатныя ў гэтым напрамку коні. Ячную мякіну лепш зусім не даваць жывёле.

Пры вялікай колькасьці мякіну трэба скласьці так, каб яна не сагрэлася і не заплесьнела. Для гэтага яе кладуць слаямі: слой мякіны вяршкоў 18 і слой саломы вяршкоў 4 і так да самага верху. Пры такой укладцы мякіна ня псуецца, бо мае прыток паветра праз салому. Мякіну трэба дзяржаць пад страхою, каб у яе не цякла вада.

(Х. Сарачынава, Пухав. р.). Сел. **А. Карнейчык.**

---

## Лёгкі спосаб грэць ваду для жывёлы.

Усюды па вёсках звычайна пояць скаціну выгнаўшы на двор да карыта, у якое наліта чыстая халодная вада са студні, які ня быў-бы мароз ці мяцеліца зімою, як надышло поўдня, то кожны селянін выганяе скаціну на вадапой. Шмат у якіх сялян бываюць цёплыя хлявы, а пояць яны скаціну на дварэ, што ня добра. Вышаўшы з цёплага хлява, скаціна мерзне, пачынае трэсьціся і не напіўшыся. хутчэй бяжыць у хлеў, там яшчэ доўга дрыжыць і яда ёй у рот ня ідзе. Некаторыя гаспадары грэюць ваду, але звычайна ў печы, на што патрэбна шмат працы і дроў, а на гаспадарку ўскладваецца шмат лішняе працы. А ёсьць лёгкі спосаб грэць ваду для скаціны. Для гэтага трэба ўзяць звычайную драўляную пасудзіну (бочку), адкапаць дзе-небудзь у свабодным кутку хлява гной і ўставіць яе туды, аблажыўшы гноем. Наліўшы бочку вадою яе зачыняюць зьверху якою-небудзь пакрышкаю, а на верх накладаецца кружок, які шчыльна ўваходзіць у бочку. За ноч гэта вада сагрэецца і раніцаю яе можна даваць каровам. Для паеньня скаціны вечарам вада наліваецца пасьля паеньня ўраньні.

Толькі ваду з бочкі кожны раз выбіраць чыста, каб вада не заставалася на другі раз. Разы два ў тыдзень бочку трэба мыць.

Сел. **М. Сенька.**






## Аб культуры кораньплодаў.

Пад кораньплодамі разумеюць—кармовыя буракі, бручку, турнэпс, кармовую моркву. Найбольш каштоўнымі зьяўляюцца па сваёй кармовай вартасьці буракі, але ня трэба забываць і іншых кораньплодаў. Нажаль, у нас мала распаўсюджаны пасеў бручкі, якая зьяўляецца важным кармовым сродкам у Даніі і якая шмат лягчэй удаецца ў нашых умовах, як буракі. Заўважым, што кожны від кораньплодаў налічвае шмат сартоў. Асобнасьць відаў і сартоў трэба стала вывучаць на раённых дасьледчых станцыях у сувязі з мясцовымі ўмовамі глебы і тэхнікай сялянскай гаспадаркі. Веды аб тэхніцы спэцкультур, якія ўзяты з кніжак, але дапасаваны да ўмоў нашай краіны і ня праверания ў нас, часам даюць няўдалыя вынікі.

Пералічаныя кораньплоды зьяўляюцца двухгадовымі расьлінамі, гэта значыць, што ў першы год атрымліваем корань, а ў другі—насеньне.

Буракі вымагаюць шмат пажыўных матэрый, ня квасных глеб і добрага догляду. Сеяць іх трэба ў пачатку траўня, каб насеньне папала ў досыць вільготную глебу. У нашых умовах (Усходняй Беларусі) апаснай парою для росту кораньплодаў зьяўляецца канец траўня, а галоўнае—*чэрвень, калі маладзенькія калівы пры налічны цяпла адчуваюць недахоп вільгаці.* Заўважым, калі пасевы кораньплодаў выйдуць няўдалымі, то трэба захаваць у расадніку расаду буракоў (бручкі), якой і карыстацца для падсадкі на месца.

Астаноўка росту маладой расьліны ў чэрвені ёсьць перасьцярога гаспадару і з гэтым магчыма трэба змагацца ўпартым пульхненьнем, паліўкай і нават прыценкай глебы паміж расьлін (перапрэўшым гноем). Значная колькасьць ападкаў, якіх мы чакаем у ліпні, ужо ня паправіць адстаўшыя з самага пачатку слабыя расьлінкі і наадварот: добра дагледжаныя ў маі і чэрвені плянтацыі шпарка пойдуць у рост пасьля ліпнёўскіх ападкаў.

У сувязі з недахопамі вільгаці ў траўні і чэрвені раім гной пад кораньплоды бязумоўна вывозіць увосень і заворваць.

Бураком трэба даць адлегласьць паміж радкамі 12 вярш., а ў радку да 8 вярш. Вельмі важнае пытаньне аб плошчы пажывы, якую трэба даць тым ці іншым відам і сартом кораньплодаў. Для розных глеб у раёнах трэба шляхам досьледаў выявіць тыя ці іншыя пытаньні па тэхніцы культуры кораньплодаў. Агульны недахоп—гэта вельмі густая пасадка расьлін у сялянскіх гаспадарках. Вясковыя жанчыны робяць значную памылку, высаджваючы вельмі густа буйную расаду капусты, бручкі і г. д. З гэтым дрэнным звычаем трэба рашуча змагацца. З 100 кабет, якія прыходзяць да нас што весну па расаду, ня больш дзесяці адважваюцца браць мелкую (з трох ліасткоў) расаду. Браўн-

швэйскай альбо швэцкай капусты, а на кірмашы ахвотна купляюць буйную расаду хоць няпэўных сартоў.

Культуру кармовай бручкі, расадай мы лічым значна лягчэйшай у нашых умовах, як развод буракоў. У Горацкай садовай установе швэцкай бручкі нават у неспрыяючых умовах (мала ўгнаеньня, сухмень) ураджай ня быў ніжэй 1000 пуд. з дзес., а дасягаў 1500 п. і больш (пры належным угнаеньні і г. д.).

Буракі і бручка (у параўнаньні з турнэпсам і морквай) вельмі добра захоўваецца пры належным доглядзе аж да позьняй вясны. Для высадак бязумоўна трэба пакінуць на 2 вяршкі вышэй шыйкі хвасткі лісьця, апроч таго заўважым, што ні ў якім разе ня трэба дазваляць нажом ачышчаць караньплоды і зьдзіраць кавалкі шкуркі з „мясам", што так часта ўжываецца ў сялянскай практыцы.

Заўважыўшы, што праца дзіцячых клюбаў, маладых самастойных гаспадароў і сялян дасьледчыкаў павінна зьяўляцца галоўнай нашай надзеяй на тое, што лепшыя прыёмы тэхнікі караньплодаў будуць шырока ўжывацца сялянствам. **М. Бурштэйн.**

---

# Караньплоды па досьледах паказальных вучасткаў у сялян.

*(Вынікі 1926 г.)*

Сельская гаспадарка Беларусі перабудоўваецца ў бок прадукцыйна-малочнага жывёлаводзтва. Натуральна, што перад сялянамі паўстаньне пытаньне, як здабыць корм для малочнай скаціны. Адно паляпшэньне санажацяй і пасеў траў на палёх, яшчэ ня могуць даць рацыянальнага кармленьня малочнай скаціны. Да павялічэньня удойнасьці мала даваць у корм канюшынавае альбо вікавае сена з атрубямі. Патрэбна ў кармовы рацыён увадзіць яшчэ сочныя кармы: караньплоды, бульбу і інш.

Вось чаму зараз раёны з жывёлаводным напрамкам гаспадаркі пачалі сеяць кармовыя буракі, турнэпс і кармовую моркву.

А сеяць іх ёсьць сэнс, бо кармовыя вартасьці караньплодаў у два разы большыя, чым з тэй жа плошчы канюшыны, выкавай мяшанкі і інш. Зробім гэта параўнаньне.

| Кармовыя расьліны | Ураджай дзесяціны ў пудох | Лік хун. у кар. адзінцы | Лік кармовых адзінак (дацкіх) з дзес. |
|---|---|---|---|
| 1. Канюшына чырвоная | 200 | 2,1 | 3810 |
| 2. Выкавая мешаніна | 150 | 2 | 3000 |
| 3. Авёс (зярно) | 80 | 1 | 3500 |
| „ салома | 120 | 3,5 | |
| 4. Буракі кармовыя | 2000 | 9,5 | 8000 |
| 5. Турнэпс | 2500 | 12,5 | 8200 |
| 6. Морква кармовая | 1000 | 7 | 5800 |

Кліматычныя і глебавыя ўмовы Беларусі спрыяюць разьвядзеньню кармовых кораньплодаў і пры правільнай тэхніцы (выраб поля, пасеў, догляд) можна мець вялікія ўраджаі. Аб гэтым сьведчаць вынікі досьледаў на паказальных вучастках, якія кожны год закладваюцца ў сялянскіх гаспадарках аграномамі. У 1926 годзе вучасткаў з карняплодамі па БССР было заложана 754, ураджаі на якіх такія:

| Акругі | Кармовыя буракі (пуд.) | Турнэпу пуд. з дзес. |
|---|---|---|
| Менская | 1800—4000 | 2000—4000 |
| Барысаўская | 1300—3000 | 2000—3000 |
| Бабруйская | 1000—3000 | 1300—4200 |
| Слуцкая | 1500—4200 | 2500—4800 |
| Віцебская | — — | — — |
| Полацкая | — — | — — |
| Аршанская | — — | — — |
| Калінінская | 1900—3000 | 1200—3509 |
| Магілеўская | 1900—3200 | 1000—2900 |

Кораньплоды патрабуюць добра ўгноенай глебы. Угнаеньнем-ж пераважна зьяўляецца гной, але калі ў гаспадарцы недахоп гною, дык можна карыстацца мінэральнымі гнаямі, якія з посьпехам могуць замяніць частку гною, а пад кармовую моркву і турнэпс і поўнасьцю. Вынікі паказальных вучасткаў сьведчаць аб выгаднасьці прымяненьня мінэральных угнаеньняў пад кораньплоды.

Паказваю некалькі прыкладаў:

| Дзе быў досьлед | Кармовая расьліна | Дзялянкі | Ураджай у дзесяц. | Прыбаўка |
|---|---|---|---|---|
| 1. Вёска Паложына, Бярэзінскага р. Барысаўскай акр. у грам. Шалойка | Кармовыя буракі | Без угнаеньня | 738 | — |
| | | Па гною | 2188 | 1450 |
| | | Гной+16 п. супэрфосфату | 2484 | 1746 |
| 2. Багушэвічы, Бярэзінскага р., Барысаўскай акр. у гр. Кавалёнка | Турнэпс | 1. Без угнаен. | 1340 | — |
| | | 2. Супэрфосф. 14 п. | 1644 | 804 |
| | | 3. Па гною (2400 п.) | 1584 | 244 |
| | | 4. Гной (2400 п.) + супэрф. (14 п.) | 2010 | 670 |

| Дзе быў досьлед. | Кармовая расьліна | Дзялянкі | Ураджай у дзесяц. | Прыбаўка |
|---|---|---|---|---|
| 3. Пасёлак Плоскае, Журавіцкага р. Магілёўскай акр. гр. Восіпаў . | Турнэпс | 1. Па гною (2400 п.) | 2459 | — |
| | | 2. Гной (1400 п.) + салітра (6 п.) | 2680 | 221 |
| 4. Лельчыцкі р. Мазырскай акр., . | Карм. буракі | 1. Па гною (2400 п.) | 2700 | — |
| | | 2. Палова гною (1200 п.) + каменная соль | 2520 | — |
| 5. Хут. Старая Каменка, Страшыцскага р., Бабруйск. акр. гр. Байдалава . , . . . . | Карм. буракі | 1. Без угнаеньня | 3000 | — |
| | | 2. 12 п. супэрфосф. | 3200 | 200 |
| | | 3. 18 п. супэрфосф. | 3300 | 3300 |

Такім чынам, ва ўсіх выпадках—прыбаўка да ўраджаю пры высеве мінэральных угнаеньняў акупае затраты на іх пакупку. Пры пасеве кармовых караньплодаў вялікае значэньне мае догляд. На паказальным вучастку ў пасёлку Бутошнае, Прапойскага р., Магілеўскай акр., дзялянка пры звычайным доглядзе за кармовымі буракамі дала ураджай 600 п. з дзес., а другая дзялянка з культурным доглядам дала 1500 п. Самымі ураджайнымі сартамі кармовых караньплодаў па досьледам паказальных вучасткаў зьяўляюцца *кармовыя буракі*—экендорскія чырвоныя і жоўтыя, *турнэпс*—Остэрзулдамскі і Бортфэльскі, *кармовая морква*—белая зялёнагаловая.

Усё гэта гаворыць, што чым шырэй сялянская гаспадарка пачне сеяць караньплоды, тым хутчэй яна наладзіць даходную малочную гаспадарку.

**П. Заяц.**

---

# Як здабыць насеньне караньплодаў.

У № 12 час. „Плуг“ (1926 г.) быў зьмешчаны артыкул, агранома П. Ляневіча „Аб насеньні караньплодаў“. Там Ляневіч закрануў вельмі важнае пытаньне ў сельскай гаспадарцы Беларусі, якое ўжо трэба ажыцьцявіць.

Я з сваёй невялікай практыкі па засеву караньплодаў, а таксама і назіраньняў за практыкай, лічу патрэбным сказаць наступнае:

Штогод плошча пад кармовымі караньподамі сялянствам павялічваецца. Попыт сялянства на насеньне караньплодаў вялікі, але сялянства толькі пачынае разумець карысьць караньплодаў і свайго насеньня ня мае.

На колькі мне вядома, усё насеньне кармовых караньплодаў нашы сяляне купляюць у прыватных гандляроў, якія, у сваю чаргу, купляюць яго нясьпелым, затухлым, ды яшчэ ўсяк псуюць яго—прамочваюць і інш. Такое насеньне дае вельмі кепскія ўсходы, а часьцей і зусім не прарастае.

Я летась, купіў паўхунта кармовых буракоў, пасеяў іх, але-ж з паўхунта ўзышло толькі 2 буракі, ды і тыя былі не кармовыя, а сталовыя.

Між тым, насеньне кораньплодаў вельмі дарагое і ня кожны селянін яго купіць. Я ведаю шмат такіх гаспадароў, якія не хацелі купляць насеньня ў прыватных гандляроў доўгі час, а шукалі добраякаснага насеньня, але амаль усе засталіся бяз кораньплодаў, бо нідзе не маглі раздабыць яго.

Наш коопэратыў прывёз быў 10 хунтаў насеньня, але яно было нягоднае: дробнае, з розным сьмецьцем. Ад такога насеньня немагчыма было чакаць кораньплодаў.

У сучасны момант насеньне кораньплодаў—буракоў, морквы, бруквы і інш., зьяўляецца галоўным пытаньнем у гаспадара, бо ён ведае, што калі карова зьела бурак, то будзе павялічваць удой.

Вельмі пажадана, каб у далейшы час на гэта пытаньне, як сялянства, так і збоку ўлады, коопэрацыі і насеннаводаў было зьвярнута больш увагі. Калі ў гэтым годзе коопэратыў ці якая грамадзкая організацыя дасьць селяніну добрага насеньня, то ў далейшым ён сам будзе яго вырашчываць і павялічваць плошчу пад кораньплодамі.

Я лічу, што тут трэба зрабіць наступнае:

1. усіх гароднікаў, насеннаводаў узяць на вучот з тым, каб яны пры наглядзе агранома прыняліся за вывядзеньне добрага насеньня.

2. Усебакова дапамагаць насеннаводам у барацьбе з сарнякамі, хваробамі і шкоднікамі насеньня.

3. Наркомзему неабходна праз часопіс „Плуг“ уцягнуць усіх сялян-дасьледчыкаў у гэту працу; дзеля гэтага першы раз можна выслаць насеньня хоць-бы за кошт селяніна.

4. Выдаць кніжку па насеннаводзтву кораньплодаў.

5. Разгарнуць працу станцый па насеннаводзтву.

Сяляне будуць вельмі рады добраму насеньню, павялічаць плошчу кораньплодаў і зробяць больш даходнай гаспадарку *).

Сел.-дасьл. **С. Сялюкін.**

---

# Засьмечанасьць пасеваў аўса**).

З прычыны засьмечанасьці палёў, недабор збожжа ва ўсёй стэповай Украіне падлічваецца сотнямі мільёнаў пудоў зярна, піша вядомы украінскі дасьледчык Шавялёў.

Калі мы прыглядзімся і на нашыя пасевы і параўнаем іх з пасевамі на УССР (у сэнсе засьмечанасьці), то ўбачым, што і на Беларусі справа абстаіць ня лепш і намі трацяцца мільёны пудоў збожжа з прычыны засьмечанасьці.

Сьметнякі (сарніны) наносяць нязвычайна вялікі ўрон селяніну, з'яўляючыся ў яго пасевах па розным прычынам, вельмі моцна адбіваючыся на эканамічным стане сельскае гаспадаркі, недаючы ёй мажлівасьці дасягнуць высокіх і трывалых ураджаяў.

---

*) У гэтым годзе Цэнтраземсклад НКЗ закупіў насеньне кораньплодаў у Даніі. Ёсьць гарантыя, што насеньне будзе добраякасным. Аднак на далейшы час нам трэба клапаціцца аб сваім насеньні. (*Рэдакцыя*).

**) Папярэдняе паведамленьне (А. Д.)

У № 1 „Плуга“, у лацінскай назове асоту [ст. 13, 2-гі радок зьверху] памылкова надрукована „Cirsium arvense L“, а трэба „Cirsium arvense Scop“.

Найбольш злоснымі ў пасевах аўса бываюць такія: асот палявы—жоўты, асот-бадзяк лілавы, хвошч палявы, хвошч балотны, плюшка, лебяда, шчаўе малое, дзікая рэдзька, кукаль, пікульнік мядовік, мята палявая, вярбейнік, пырнік, казялец паўдзікі, тысячалісьнік, шпэргэль, плевел ап'яняючы, валошка, аўсюг польскі, бярозка і шмат іншых. Наогул-жа кажучы, нашы пасевы засьмечаны вельмі вялікай колькасьцю відаў сьметнякоў (у аўсох да 150-ці відаў), сярод якіх галоўнае месца займаюць найбольш злосныя шматгадовыя сьметнякі, з якімі вясьці барацьбу вельмі цяжка.

Засьмечанасьці палёў у нас не прыдаецца належнага значэньня, у той час, калі на УССР гэтаму пытаньню адводзіцца галоўнае месца*). Каб ня быць галаслоўным, я прывяду даныя па засьмечанасьці Днепрапятроўскае дасьледчае станцыі і параўнаю іх з данымі засьмечанасьці нашых пасеваў, якія атрыманы мною пры вывучэньні засьмечанасьці палёў у 1926 г.**).

Пры падліку расьлін, сабраных з 30-ці кв. саж. засьмечанага поля ў Марывупальскім пав. Днепрапятроўскай губ. выяўлена, што ячмень складаў толькі адну сёмую частку ўсяе колькасьці расьлін. Ячменю (саломы і зярна) было $25\frac{1}{2}$ х., аўсюга 31 х., асоту $25\frac{1}{2}$ х., пырніку $26\frac{1}{2}$ х. і іншых сьмяцін 73 х.; усяго-ж сьмяцін—3 п. 36 х. На другім полі Верхнядняпроўскага пав. было сабрана з аднае дзесяціны ячменю—27 п. 24 х. і аўсюга—28 п. 32 х. На трэцім полі Марывупальскага пав. з аднае дзесяціны было сабрана ячменю—11 п. 36 х. і аўсюга—18 п. 20 х.***). Як бачым з паказанага, украінскія палеткі засьмечаны значна больш, чым на 50 проц. Але і ў нас справа нялепшая. Прыводжу табліцу засьмечанасьці нашых палёў (пробы ўзяты з 50×50 кв. сантым.****).

З прыведзенае табліцы можна бачыць, як страшэнна засьмечаны пасевы аўса. У вёсцы Лошыца, напрыклад, па сугліністых глебах найбольшая засьмечанасьць ідзе па вазе, якая дасягае 71 проц. (паласа № 3), а найменшая засьмечанасьць па вазе раўна 43 проц. (паласа № 5). Тое-ж самая і паліку. У вёсцы Карзюкі, на сугліністай глебе, найбольшая засьмечанасьць раўна 57 проц. (паласа № 1), найменшая 26 проц. (паласа № 3). Па фэрме Лошыца, пры сугліністых глебах, засьмечанасьць у сярэднім раўняецца 55 проц., а ў Зацішшы 63 проц.

У вёсцы Дворышча на супясках малюнак крыху лепшы, дзе найбольшая ступень засьмечанасьці дасягае 37 проц. (паласа № 5) і найменшая 16 проц. (паласа № 4); у вёсцы Маляўкі на супесках найбольшая засьмечанасьць раўна 40 проц. (паласа № 2) і найменшая 11 проц. (паласа № 4) [1]).

Ступень значна меншай засьмечанасьці двух вёсак з супясковымі глебамі, тлумачыцца ня толькі глебавымі ўмовамі, а напэўна яшчэ і ўмовамі культурнага гаспадараньня. Так, напрыклад, сяляне гэтых вёсак перш за ўсё сеюць лубін і, трэба думаць, што гэта дапамагае зьнішчэньню сарнін.

---

*) Гл. „Плуг" № 1.

**) Аб мэтодыцы абсьледваньня гл. «Плуг» № 1. 1927 г.

***) І. Шэвялеў—О сорных растениях степной полосы Украины и борьбе с ними. Выдан. ЕОС—ХОЗ 1925 г.

****) Табліцу глядзі на адвароце.

[1]) Усе абсьледаваныя вёскі знаходзяцца ў раёне фэрмы Лошыца, Менскае акр. Нова-Двор. с-с. Бел. аддзяленьне Ўсесаюзнага Інстытуту прыкладнае ботан. і новых культур.



| НАЗВА МЯСЦОВАСЬЦІ | №№ палос | Авёс: Па вазе, Вага | Авёс: Па вазе, % | Авёс: Па ліку, Лік | Авёс: Па ліку, % | Аўсюг польскі: Па вазе, Вага | Аўсюг польскі: Па вазе, % | Аўсюг польскі: Па ліку, Лік | Аўсюг польскі: Па ліку, % | Плевел ап'яняючы: Па вазе, Вага | Плевел ап'яняючы: Па вазе, % | Плевел ап'яняючы: Па ліку, Лік | Плевел ап'яняючы: Па ліку, % | Кукаль: Па вазе, Вага | Кукаль: Па вазе, % | Кукаль: Па ліку, Лік | Кукаль: Па ліку, % | Інш. сьметнякі: Па вазе, % | Інш. сьметнякі: Па ліку, % |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Супяскі в. Дворышча Нова-Дворскага с/с. Менскае акр. | 1 | 357,5 | 64,32 | 266 | 66,08 | 1,25 | 0,22 | 1 | 0,29 | 0,75 | 0,15 | 1 | 0,29 | 4 | 0,71 | 1 | 0,29 | 34,60 | 33,05 |
| | 2 | 261,5 | 82,13 | 118 | 61,40 | — | — | — | — | — | — | — | — | 2,5 | 0,78 | 2 | 1,04 | 17,09 | 37,56 |
| | 3 | 326 | 75,63 | 280 | 85,08 | — | — | — | — | 8 | 1,85 | 5 | 1,48 | — | — | — | — | 22,52 | 15,44 |
| | 4 | 272 | 83,95 | 264 | 85,30 | 2,25 | 0,69 | 2 | 0,72 | 8 | 2,46 | 7 | 2,53 | 2 | 0,61 | 1 | 0,36 | 12,29 | 11,09 |
| | 5 | 188,5 | 62,78 | 145 | 68,07 | 4 | 1,33 | 3 | 1,40 | — | — | — | — | 2 | 0,66 | 1 | 0,46 | 32,82 | 30,09 |
| Супяскі в. Маляўкі Н.-В. с/с. | 1 | 195 | 71,75 | 82 | 56,74 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | 28,25 | 43,26 |
| | 2 | 145 | 59,91 | 113 | 78,21 | — | — | — | — | 1 | 0,41 | 2 | 1,38 | 1 | 0,41 | 1 | 0,69 | 39,27 | 19,72 |
| | 3 | 352,25 | 82,06 | 219 | 85,54 | 1 | 0,23 | 1 | 0,39 | 5,25 | 1,22 | 4 | 1,56 | — | — | — | — | 16,49 | 12,51 |
| | 4 | 272,5 | 88,86 | 217 | 83,78 | 2,75 | 0,89 | 2 | 0,77 | 8,5 | 2,77 | 6 | 2,31 | 3,25 | 1,05 | 2 | 0,77 | 6,43 | 12,37 |
| | 5 | 240 | 77,04 | 111 | 69,37 | 1,5 | 0,84 | 2 | 1,25 | 3 | 0,96 | 3 | 1,87 | — | — | — | — | 21,16 | 27,51 |
| Суглінкі в. Лошыца Н.-Д. с/с. | 1 | 150,25 | 32,98 | 59 | 35,54 | 3 | 0,65 | 2 | 0,12 | — | — | — | — | — | — | — | — | 66,37 | 64,24 |
| | 2 | 125,5 | 37,03 | 66 | 21,92 | 1,5 | 0,36 | 1 | 0,33 | 3,25 | 0,78 | 4 | 1,32 | 1,75 | 0,42 | 1 | 0,33 | 61,41 | 76,10 |
| | 3 | 91,75 | 28,74 | 73 | 44,78 | 0,75 | 0,23 | 1 | 0,61 | 3,75 | 1,17 | 3 | 1,84 | — | — | — | — | 19,86 | 52,77 |
| | 4 | 206 | 49,23 | 76 | 32,17 | 0,75 | 0,17 | 1 | 0,49 | 12,25 | 2,49 | 8 | 3,9 | 2 | 0,47 | 1 | 0,49 | 47,21 | 62,89 |
| | 5 | 174 | 56,86 | 92 | 49,72 | 3,25 | 6,06 | 3 | 1,62 | 3 | 0,98 | 2 | 1,08 | 4,25 | 1,38 | 3 | 1,61 | 39,82 | 45,97 |
| Суглінкі в. Карзюкі Н.-Д. с/с. | 1 | 160,5 | 42,85 | 78 | 39,39 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | 57,15 | 60,61 |
| | 2 | 185 | 64,60 | 79 | 51,80 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | 35,40 | 48,20 |
| | 3 | 253,5 | 73,92 | 177,5 | 75,36 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | 26,08 | 24,64 |
| | 4 | 235 | 67,64 | 184,5 | 49,90 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | 32·36 | 50,10 |
| | 5 | 211 | 70,43 | 130,5 | 52,27 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | 29,57 | 47,73 |
| Суглінкі фэр. в. Лошыца Н.-Д с/с. | 1 | 192 | 41,66 | 66,60 | 35,95 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | 58,34 | 64,05 |
| | 2 | 233 | 48,00 | 53 | 36,52 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | 52,00 | 63,48 |
| Суглінкі ф. Заціша Н.-Д с/с. | 1 | 98,2 | 36,62 | 74 | 37,97 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | 63,38 | 62,03 |

Процант сабранага чыстага збожжа ў в. в. Дварышча і Маляўкі гэтак-жа большы па вазе і ліку ў параўнаньні з палеткамі в. в. Лошыца і Карзюкі (суглінкі). Гэта трэба тлумачыць, напэўна, тым, што тут сеюць лубін і, падругое, блізасьць г. Менску (4-5 вёр.), што дазваляе набываць дзёшава гной. Па гэтай-жа прычыне ў вёсках з суглістымі глебамі (Карзюкі, Лошыца, фэрм. Лошыца і Зацішша) ураджаі значна горшыя, чым у вёсках з супясковымі глебамі (Дварышча і Маляўкі).

Пры дасьледваньні пасеваў з сугліністымі глебамі адразу кідаецца ў вочы незвычайная засьмечанасьць, дзе пасяўная расьліна нашчэнт задушана сьметнякамі—асотамі, калючым пікульнікам, дзікай рэдзькай, плюшкай, лебядою і шмат іншымі.

Такім чынам, можна сказаць, што селянін тут палову свае працы траціць дарэмна. Замест 100 проц. аўса ён зьбірае толькі ў сярэднім 50 проц., а часта і 29 проц.; рэшта-ж 50—71 проц. належыць да сьмецьця, якое часта атручвае і зьніжае кармовае значэньне аўса. Да такіх сьметнякоў належаць плевел ап'яняючы, аўсюг польскі і кукаль; аўсюг па вазе ад усяго ўраджаю дасягае 1 проц. і больш (Лошыца, паласа № 5), а па ліку значна больш. Плевел ап'яняючы ў Дварышчы (паласа № 4) засьмечвае на 2,46 проц. па вазе і па ліку, у Маляўках на 2,47 проц. (паласа № 4), у Лошыцы на 2,49 проц. (паласа № 4). Кукань у Дварышчы дасягае 1 проц., у Маляўках 1,05 проц. (паласа № 4), у Лошыцы—1,38 проц. (паласа № 5). У в. Карзюкі і фэрм. Лошыца і Зацішша гэтых сарнякоў амаль зусім ня было. Адсутнасьць іх тлумачыцца тым, што, як у Карзюках, так і на фэрмах аддаецца вялікая увага ачыстцы насеньня і пасевы пазбаўлены ад плевелу, аўсюга і кукалю. Але агульная засьмечанасьць іх палёў сьведчыць аб тым, што глеба там засьмечана вельмі значна, а паменшыць яе можна, хаця-б і лушчэньнем поля.

Аб спосабах барацьбы з сьметнякамі пагаворым у другі раз. Зараз успомню толькі адну думку нямецкага праф. Румкера, які кажа, што засьмечанасьць палёў ёсьць бяда, ад каторае ў поўнай меры можна пазбавіцца. Засьмечанасьць пасеваў ня ёсьць злы лёс, якому гаспадар павінен бясспрэчна скарыцца, наадварот, можна толькі сказаць, што ў кожнага гаспадара на полі столькі сьметнякоў, колькі ён заслужыў сваёю неахайнасьцю.

**А. Дзямідовіч.**

# СЯЛЯНСКІ ДОСЬЛЕД

## Праца сялян дасьледчыкаў у 1926 г.

Мінулы год у працы сялян-дасьледчыкаў быў пробным або арганізацыйным. Ня было яшчэ практыкі ў некаторых маладых дасьледчыкаў, а пад час і ведаў, каб умела і дасканала паставіць досьлед і правесьці яго да канца. Але і першы год працы шмат чаму навучыў і шмат чаго даў. Амаль што на кожнай с.-г. выстаўцы былі такія сяляне, якія паказвалі вынікі сваіх досьледаў і тым агітавалі за культурныя мэтады працы, за большы ўраджай і даходную гаспадарку.

У 1926 г. каля „Плуга" гуртавалася да 25 сялян-дасьледчыкаў. Амаль палова гэтых сялян дасьледчай працай займалася ўпяршыню і таму ня ўсе іх досьледы далі добрыя вынікі. У некаторых досьледы ня былі даведзены да канца, напрыклад, прыбіралі ўраджай, калі гаспадара ня было дома і ўраджай вопытных дзялянак ня быў падлічан; або лубін патаптала скаціна і г. д. Вядома, такі вопыт сам селянін бракаваў.

На працягу года сяляне-дасьледчыкі выдрукавалі ў „Плугу" 63 артыкулы. Па тэмах іх можна падзяліць на пяць асноўных груп— *кармовае пытаньне* (14 арт.), *кораньплоды* (8), *угнаеньне глебы* (14) *і розныя іншыя галіны гаспадаркі* (11).

Як бачым, кармовае пытаньне зьвяртае на сябе ўвагу сялян у першую чаргу, бо гэта хворае месца нашай гаспадаркі.

У далейшай працы нашых сялян-дасьледчыкаў апрача новых пытаньняў прыдзецца займацца яшчэ і гэтымі.

Каб праца сялян-дасьледчыкаў была больш шырокай і грунтоўнай, рэдакцыя „Плуга" мае на мэце так ці інакш дапамагаць ім; даставаць і рассылаць сартовае насеньне, насеньне кораньплоду, пры ўдзеле спэцыялістых распрацоўваць праграмы досьледаў і г. д. Зараз па просьбе рэдакцыі Усесаюзным Інстытутам Прыкладнае Батанікі будзе выслана 75 сялянам-дасьледчыкам „ячмень залаты", „ячмень Ганхен" і „авёс В 326 Маскоўскі" (каля 5 клгр. кожная пасылка).

Для закладкі вопытаў з торфам распрацоўваецца праграма асыстэнтам хімікам Інбелкульту П. С. Трусам.*) Для гэтых вопытаў усім дасьледчыкам прыдзецца хоць зімою прызапасіць торфу, каб з вясны можна было залажыць кампосты і пусьціць торф у подсьціл скаціне.

Сярод сялян-дасьледчыкаў трэба назваць некалькіх чалавек, якія гэтай працай займаліся вельмі ўпарта (С. Сялюкін, М. Тарасенка, Шасьціткa, А. Карнейчык, Я. Судак і інш.). Яны, можна сказаць, літэральна расьлі культурна, бо дасьледчая праца вымагае чытаць с.-г. кніжкі. Вось чаму зараз увесь вольны час, які яшчэ застаецца да вясны ў кожнага селяніна, а ў селяніна-дасьледчыка асабліва, і трэба выкарыстаць на падрыхтоўчую працу і азнаямленьне з с.-г. літаратурай.

---

*) Тэмы досьледаў будуць у № 3.

Працы сялян-дасьледчыкаў, як і паказальным вучасткам, якія закладваюць аграномы ў сялян, Наркамзем надае вялікае значэньне і з кожным годам будзе пашыраць.

Да гэтага часу сяляне-дасьледчыкі гуртаваліся каля раённых с.-г. станцый і часопісі „Плуг". Далей іх праца будзе разгорнута значна шырэй, бо сялянскі досьлед будзе зьвязаны з Навукова-Дасьледчым Інстытутам сельскай і лясной гаспадаркі імя У. І. Леніна. Гэта навукова-дасьледчая ўстанова ставіць сабе мэтай вывучаць сельскую і лясную гаспадарку БССР з усіх бакоў і ўсе дасягненьні навукі зьвязваць з практычным жыцьцём сельскай гаспадаркі.

---

# Вынікі працы вопытнага поля пры Беліцкай с.-г. школе.

*(Сеньніцкі раён, Віцебскай акр.).*

Пры Беліцкай с.-г. школе 3 гады таму назад заложана навучальна-дасьледчае (паказальнае) поле, дзе вучні пад кіраўніцтвам настаўнікаў вядуць дасьледчую працу. Цяпер плошча поля пашырана з 3-х да 5 дзес.

Летам 1926 г. на полі працавалі, як вучні школы, так і рабочыя саўхозу.

Глеба поля слабаападзоленая супесь. Поле дрэніравана, як і ўсе палі вучастковых гаспадарак.

Тыя вынікі, што мы палучылі, паказваюць шлях, па якому трэба ісьці, каб палепшыць сваю гаспадарку.

Пачну свой агляд з апісаньня вопыта з бульбай, бо яна на Беларусі мае большую вартасьць за іншыя расьліны.

Вопыты з бульбаю вяліся на палявых вучастках, на дзялянках велічынёю каля 220 кв. саж. і на прысялібных севазваротах. Вывучалі, як лепш выраблядь зямлю пад бульбу, як яе лепш угнойваць, садзіць і даглядаць і якія сарты выгадней разводзіць.

Севазваротаў, якія правяраліся, было некалькі. Мы стараліся высьвятліць, які з севазваротаў для нас зьяўляецца больш выгадным.

Пры двухпольлі бульба садзіцца пасьля ячменю. Пры чатырохпольлі ідзе пасьля жыта (папар з лубінам, жыта, бульба і ячмень). Пры шасьціпольлі было такое чаргаваньне: папар з-пад канюшыны, жыта, авёс, бульба на гнаі (2400 п. на дзес.), ячмень-канюшына; пры дзевяціпольлі—папар раньні ўгноены, бульба, ячмень-канюшына, канюшына 3 гады, жыта, авёс. Зямля пад вопытам на двухпольлі выраблялася так: з восені дзялянкі былі ўзараны, але да вясны так заплыла, што прышлося не баранаваць, а араць другі раз. Узарана плугам Сухені на глыбіню ў 3½ (27/IV). Пасьля воранкі поле была забаранована.

6-га мая было ўнесена на дзялянку 5 пуд. попелу (каля 50 пуд. на дзес.), а пасьля запружынована.

11-га мая быў вывезен конскі гной (1 пуд. на кв. саж.).

12-га мая гной заараны на 3 вярш. плугам Сухені. Гной зграбаўся ў барозны граблямі.

17-га мая поле баранавалі, бо пачалі ўсходзіць сьметнякі.

22-га мая глебу ўспульхнілі талеркавай бараной і прабаранавалі.

26-га мая разьбілі на дзялянкі і пусьцілі метчык. Адлегласьць паміж сьлядамі метчыка 13 вярш. На перасячэньні сьлядоў метчыка раскладвалася насеньне бульбы. Адна бульбіна займала плошчу ў 169 кв. вярш. Насеньне бульбы прысыпалася асыпнікам, які пускаўся праз рад.

Такім чынам, зьверху быў пласт зямлі ня больш 1 вярш. Насеньне мела пласт рыхлай зямлі, што вельмі важна для добрага яе росту. Бульба пачала ўзыходзіць 10-га чэрвеня. Першае асыпаньне бульбы рабілася 11-га чэрвеня. Усе ўсходы з'явіліся 25-га чэрвеня. 29-га чэрвеня бульба асыпалася ўпапярок у параўнаньні з першым асыпаньнем.

8-га ліпеня бульба асыпалася апошні раз, а 20-га кастрычніка бульбу капалі.

Усе дзялянкі з другімі севазваротамі выраблялiся, як і на двухпольлі і ў той жа самы час. Толькі на дзялянку ў шасьціпольным севазвароце гной вазіўся 1 пуд на 1 кв. саж.

Ураджай на вопытных дзялянках у пераводзе на дзес. быў такі:

| СЕВАЗВАРОТ | Агульны ўраджай у пуд. | % % адносіны | % паміж сартоў | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | 1-га сорту | 2-га сорту | 3-га сорту |
| Двухпольны . . . . | 1871 | 267 | 72 | 21 | 7 |
| Шасьціпольны . . . | 1924 | 275 | 66 | 26 | 8 |
| Чатырохпольны . . . | 1173 | 167 | 38 | 52 | 10 |
| Дзевяціпольны . . . | 1377 | 197 | 58 | 35 | 7 |
| Дзевяціпольны ў гаспадарцы . . . . . | 700 | 100 | — | — | — |

З гэтай табліцы відаць, што калі параўнаць ураджай вопытнага поля з ураджаем гаспадаркі, дзе зямля выраблялася і даглядалася, бульба зусім інакш, то відаць, што на вопытным полі ўраджай удвайне павялічыўся (на 97 проц. вышэй). Калі-ж лепш выраблëючы зямлю, яшчэ пад бульбу даць гною, то ўраджай павялічваецца ў $2^1/_2$ разы. Двухпольле і шасьціпольле даюць, бадай што, роўныя ўраджаі. Папар лубінавы даў горшыя вынікі, чым чысты, раньні, але я ня ведаю, які быў ураджай лубіну, калі і як ён быў заараны. Загэтым і ніякіх вынікаў не рабілі.

З табліцы відаць, што па якасьці бульба самая лепшая з двухпольля. Тут трэба прызнаць добры ўплыў попелу. З дзевяціпольля бульба горшая, як з першых двух севазваротаў.

**В. Серафімовіч.**

---

# Досьлед з турнэпсам.

Да сёлетняга году пасевам турнэпсу я не займаўся і ня ведаў ад яго карысьці, таксама ня ведаў і як вырашчываць турнэпс.

Заняцца пасевам турнэпсу для мяне зьяўляецца аднэй з галоўных задач.

У 1926 г. мне аграном даў насеньня турнэпсу. Атрымаўшы насеньне, я перш хацеў пасеяць яго звычайна на ўгноеным кавалку 3-пад бульбы, але потым надумаўся зрабіць досьлед, каб ён быў паказальным для сялян.

Для досьледу ўзяў кавалак бульбянішча, дзе гной вывозіўся да 2400 пуд. на дзес. Вучастак разьбіў на дзялянкі па 6 кв. саж. кожная. На першую дзялянку палажыў рана вясной добра перапрэўшага гною 9 пуд., што на дзес. дае 3600 п.

На другую дзялянку я палажыў 3 п., гною, або 1200 п. на дзес.

На трэцюю дзялянку пасеяў 6 хун. попелу, што ў пераводзе на дзес. дае 60 п. На чацьвертую—палажыў 3 хунт. попелу, або на дзес. 30 пудоў.

Гной быў добра перапрэлы. Гной адразу заараў, а праз тыдзень поле выскарадзіў і зноў заараў сахою. Пасьля другой воранкі пасеяў попел і паганяў барозны. Барозны былі паганяны на 12 вярш. адна ад другой (ад сярэдзіны баразны). На дзялянках граблямі правёў канаўкі на $^1/_2$ вярш. глыбінёю.

Сеяў турнэпс я 5-га чэрвеня (VI мес.) і зразу закрываў насеньне зямлёю. Яшчэ ўсходаў ня было відаць, як на барознах зямля сплылася, асабліва дзе яна была ўгноена попелам. Праз скарынку цяжка было прабіцца растку турнэпса. Скарынку я асьцярожна разьбіў граблямі, а ўсе сарніны, якія ўжо пасьпелі зьявіцца, выпалаў, прайшоўшы зьлёгку сахою па барознах.

Калі турнэпс вырас на паўвяршка і яго можна было адрозьніць ад сарнякоў, я яго прарэдзіў і зноў выпалаў сорныя расьліны. Прарэджываў турнэпс рукамі, пакінуў расьліну ад расьліны вярш. на 6—7, у кожным гнязьдзе па 2—3 каліва. Праз паўтара тydня зноў выпалаў сарнякі і драўляным крукам успульхніў верхні слой глебы на градках. Пры гэтай полцы я павырываў яшчэ турнэпсу і толькі самыя моцныя калівы заставіў. Усяго прапаллоў за лета чатыры разы і таксама чатыры разы асыпаў сахой паміж баразён адначасова на ўсіх чатырох дзялянках. Увосень з дзялянак сабраў ураджай, і ўсё падлічыў.

Некалькі слоў скажу аб тым, ці выгадна разводзіць турнэпс і які ўплыў на ўраджай мае попел і гной.

Ураджай з дзялянак паказваю ў табліцы:

| №№ дзялянкі | Ураджай з дзялянкі ў хун. | Ураджай на дзес. ў пуд. | Чым угноена |
|---|---|---|---|
| 1 | 305 | 3050 | 3600 п. гною |
| 2 | 185 | 1850 | 1200 „ „ |
| 3 | 215 | 2150 | 60 „ попелу |
| 4 | 151 | 1510 | 30 „ „ |

На дз. № 1 турнэпс быў велічынёй да 15 х., рэшта-ж дзялянак мела драбнейшы.

Як відаць, у нас можна і варта сеяць турнэпс. Пры ўгнаеньні 3600 п. гною на дзесяціну турнэпс даў 3050 п., а пры ўгнаеньні попелам (60 п. на дзес.) ураджай 2150 п. Да гэтага часу я ня ведаў, што попел мае такі ўплыў на турнэпс.

Цяпер я зьбіраю попел і думаю налета зноў зрабіць досьледы, але на большай плошчы і яшчэ з мінэральнымі ўгнаеньнямі.

Сел. **С. Сялюкін.**

# Аб выніках пасеву турнэпсу і кармовых буракоў за тры гады.

У 1926 г. турнэпсам я засяваў 1/8 дзес. Палавіну ўгнаеньня вывез увосень, а палавіну вясною. Ураджай палучыў, па разьліку на дзес. 4020 пуд., у 1925 г.—3680 пуд., у 1924 г.—1730 п., а сярэдні ўраджай за тры гады—3143 п. 13 х.

У 1924 г. быў самы нізкі ўраджай турнэпсу і гэта таму, што я ня ўмеў яшчэ сеяць і даглядаць яго, а толькі вучыўся.

У 1926 г. зьняўшы ўраджай турнэпсу і падлічыўшы колькі трэба сабе, я рэшту 250 пуд. прадаў Стэфанава-Кармянскаму Камбінату і сялянам. Прадаваў па 20 кап. за пуд і вось калі падлічыць на дзесяціну, то выйдзе (20 к.×3143) 628 р. 60 к. Гэту суму можна атрымаць з аднае дзес. ў сярэднім за тры гады, а як падлічым мой ураджай сёлетні, то будзе 804 р. (30×4020=804 р.). Гэта сума гаворыць за тое, што турнэпс можна сеяць.

Акрамя карэньня, ураджай кораньплодаў дае прыблізна да 1000 п. з дзесяціны батвы, якую паядае жывёла, а гэта дзеля селяніна мае вялікае значэньне.

Таварышы сяляне, сейце турнэпс!

*Кармовыя буракі (1925 і 1926 г.).* Кармовыя буракі сеяў я і ў 1924 годзе, але тады сеяў я ня ўмеючы, і дрэнны ўраджай прымусіў мяне падвучыцца, што і як рабіць.

У 1925 г. я ўжо сеяў буракі, як трэба і атрымаў ураджай па разьліку на дзесяціну 2940 пудоў.

Сёлета ў мяне была засеяна буракамі 1/8 дзес., а накапаў я 397 п. 20 х. На дзесяціну гэта дасьць 3180 п.; сярэдні-ж ураджай за два гады будзе 3060 пуд. Трэба адзначыць, што ўраджай буракоў можа быць і большым. У гутарцы аб кораньплодах з каморнікам Лонскім я даведаўся, што ў гаспадарцы яго брата, якая знаходзіцца ў 6 вярстох ад Магілева, буракі на вельмі ўгноеным полі далі ўраджай каля 7000 пуд. на дзес. Але і мой ураджай заслугоўвае ўвагі. З сёлетняга ўраджаю 150 п. я прадаў па 25 кап. за пуд; іх ахвотна бралі на корм. Калі мы па такой цане падлічалі сярэдні ўраджай за два гады, то будзем мець 765 руб. (25×3060=765 р.). Лічба 765 р. гаворыць тое, што сеяць кораньплоды ёсьць карысьць і што ніякае збожжа не дасьць гэтага; нават бульба пры ўраджаі 2000 п. з дзесяціны і пры цане 30 кап. за пуд (такая цана ў нас) дасьць толькі 600 руб. Але ўраджай у 2000 пуд. бульбы рэдка дзе знойдзецца, большасьць выпадкаў 1000—1200 пуд.

Прыблізна месяц таму назад мне прышлося з райаграномам і яго памоцнікам абысьці некалькі гаспадарак-пасёлкаў і хутароў Кармянскага раёну, каб падлічыць іх прадукцыйнасьць. Пры гэтым мы знаходзілі і такіх гаспадароў, у якіх дзесяціна бульбы давала ад 350 да 600 пудоў, а дзесяціна жыта ад 30 да 35 пуд. Вось тут і зрабі параўнаньне, то выдзе, што замест аднэй дзесяціны трэба шэсьць, каб атрымаць прыбытак у 765 рублёў.

На гэта мне могуць сказаць, што калі дрэнны ўраджай бульбы і жыта, то аб буракох і думаць нельга, але-ж справа ня ў тым.

Возьмем прыклад. Гаспадарка мае 6 дзес. пахаці і з гэтых шасьці дзес. пад жытам дзьве, а астатная зямля пад ярыною і папарам. На другі год гаспадар зноў сее 2 дзес. жыта, а астатняе поле

ідзе пад ярыну і папар. Вядома, што тут і гной мала падсобіць, бо зямля вельмі зьнішчаецца аднолькавымі расьлінамі. Такі гаспадар добрага ўраджаю ніколі не палучыць. Такая гаспадарка недаўгавечна; яна штогод, то прыбытку дае менш, а то і ўбытак. Калі-ж будзе правільны севазварот, дык к таму яшчэ гаспадар будзе сеяць караньплоды, то і гаспадарка будзе даходнай і стане мацнець.

Трэба сеяць караньплоды, каб ня было бяскорміцы.

У дадатак к гэтаму скажу, што саджаныя буракі ўдаюцца лепей, чым сеяныя.

Сел. **Янка Судак**.

---

# Высокалітоўская пшаніца зімка—лепшы сорт у нашых умовах.

*(З досьледу).*

Пшаніца-зімка сорту „высокалітоўская“ ўведзена ў нашай вёсцы з 1924 г. трымя сялянамі, якія атрымалі яе з крэдытнага Т-ва. Вынікі на нашай глебе і пры нашых умовах палучыліся надта добрыя ў параўнаньні з мясцовай чырвонай пшаніцай, якая кожны год сеялася несартаванай, засьмечваная і зьмяльчэла.

У 1925 г. мы парашылі завесьці гэты высокалітоўскі сорт пшаніцы ў сваёй гаспадарцы. Зьвярнуліся ў насеннае таварыства, але там ужо ня было. Усё-ж такі нам удалося ў аднаго з гэтых сялян дастаць 27 хунт. пшаніцы. Трэба адзначыць, што насельніцтва яшчэ дагэтуль баіцца даць які-небудзь новы сорт, каб ня зьвёўся ў яго.

Гэтыя 27 хунт. мы пасеялі на плошчы 180 кв. саж. Ураджай з гэтай плошчы атрыман адзінаццаць пудоў, што па разьліку на дзесяціну дае 147 пуд., у той час, калі простая пшаніца на аднолькавай глебе і палавіны таго не дала. Пры тым зярно „высокалітоўскай“ пшаніцы буйнае і сьветлае, што прыдае добрую якасьць муцэ.

З гэтых 11 пудоў у 1926 г. мы пасеялі 5 пуд., а апошнія 6 абмянялі 11 сялянам. Трэба адзначыць, што імкненьне ў насельніцтва завесьці гэту пшаніцу надта вялікае. Перад пасевам да нас кожны дзень прыходзіла 3-4 чалавекі, так што ў канцы прышлося дзяліць хунтамі *).

Сел. **М. Тарасенка**.

(в. Бракава, Магілеўшчына).

---

# Наша праца з балотам.

*(З сялянскай практыкі).*

У 1922 годзе ў нас мералі санажаць. На нашу гаспадарку па норме прыходзілася $^3/_4$ дзес. добрай санажаці. Тут-жа засталося пакрытае куп‘ем балота, якога ніхто не хацеў браць і замест $^3/_4$ добрае санажаці мы ўзялі 2 дз. і 800 кв. саж. гэтага балота. Два гады мы ім карысталіся. Тую асаку, якая расла на балоце, прыходзілася выносіць на плячох (на кані нельга было ехаць).

---

*) Паведаміце, якія вынікі даў ураджай 1926 г. у вас і іншых сялян вашай вёскі. (Рэд.).

У 1924 годзе мы задумалі асушыць гэта балота, што і зрабілі, прарыўшы 220 саж. канаў. Спачатку баяліся, што наша праца прападзе дарэмна. Але на другі год мы ўжо не цягалі на плячох сена, а вазілі яго на кані, бо балота значна перасохла. Гэта падбадрыла мяне і бацьку. Аднак на гэтым мы не супыніліся. Чытаючы кніжкі мы пазналі, што на асушаным балоце растуць: авёс, бульба, розныя кармовыя травы і інш. Для канчатковага вырашэньня гэтага пытаньня мы зьвярнуліся ў Магілеўскі мэліорацыйны аддзел. Там нам хутка адказалі на нашы пытаньні. Сказалі нам ўзараць балота і пасеяць выка-аўсяную мешаніну. Хоць у той час было шмат працы на полі і было ўжо позна, але ўсё-ж для вопыту мы зааралі невялікі кавалак балота ($^1/_8$ дзес.) і паскародзілі талеркавай бараной Рандоля, пасеялі калійнай солі і тамасаўкі па разьліку 33 пуды на дзесяціну і пасеялі на $^1/_2$ балота выкааўсянай мешаніны, а на другой кармовыя травы (канюшыну швэцкую, цімафейку і купкоўку зборную).

Пасеў зроблены 26-га чэрвеня, усходы былі добрыя. Тут трэба адзначыць, што каля канавы пасевы расьлі лепш. Гэта кажа за тое, што тут балота больш асушана і грунтовая вада знаходзіцца далей ад паверхні.

Вынікі былі нечаканыя. 18-га жніўня быў у нас культур-тэхнік, які зрабіў вучот ураджаю. Вышла па разьліку на дзес. 1020 пуд. зялёнай масы, а сухога сена 255 пуд. Што датычыць мешаніны кармовых траў, то яна расьце лепш, чым на мінэральнай глебе. Толькі пападаюцца сарнякі. У пачатку верасьня мы мешаніну траў скасілі, каб да сьнегу яна адрасла. Гэты вопыт зьмяніў пагляд на балота.

К вясьне 1927 г. мы распрацавалі яшчэ большую плошчу балота, дзе будзем сеяць авёс, проса, бульбу і інш. расьліны. Сёлета мы капаем ва ўсю даўжыню дзьве канавы, якія канчаткова высушаць балота.

Шчырая падзяка Магілеўскім культур-тэхнікам Сідарэнку і Году, якія нам значна дапамаглі ў гэтай справе.

Сел. **М. Тарасенка.**

(С. Бракава, Магілеўшчына).

---

# Як у вёсцы Клешава пачалі сеяць канюшыну.

У вёсцы Клешава канюшыну пачалі сеяць яшчэ задоўга да вайны. Калі першы раз яе пасеялі я непамятаю. Сеялі канюшыну пад ярыну, а першы год касілі ў папары. На другі год канюшыны не застаўлялі.

Перад вайною ў нашых суседніх вёсках пасеў канюшыны значна пашырыўся. Мой дзед у 1909 г. на 2 дзесяціны ярыны пасеяў 70 хунт. і на другі год накасіў 30 добрых вазоў сена-канюшыны. У часе вайны і рэволюцыі засеў канюшыны значна зьменшыўся, а было гады 2 і такіх, што канюшыны ніяк ня сеялі. Канюшына дрэнна радзіла, а сталася гэта таму, што кожную восень канюшыну так выпасвалі рознаю жывёлаю (коньмі, каровамі, авечкамі і нават сьвіньмі), што на месьце зялёнае канюшыны заставалася чорная зямля. Падругое, канюшына сеялася ў трохпалёўцы і зварачалася на старое месца праз тры гады. Але час ішоў і засеў канюшыны стаў зноў пашырацца. Цяпер ужо у нашым раёне амаль няма ніводнае гаспадаркі, якая-б ня сеяла канюшыны. Канюшыну паважаюць усе сяляне, як найлепшы корм для

коняй і кароў і яшчэ за тое, што пасьля канюшыны заўсёды расьце лепшае жыта. У 1926 г. у іншых сялян канюшына не ўрадзіла. Асабліва не ўрадзіла яна ў тых сялян, якія сеялі загранічным насеньнем. Таксама было і ў тых вёсках, чые палоскі знаходзяцца бліжэй к вёсцы і, такім чынам, увосень былі больш страўлены рознай скацінай. Добра парос „пярмяк". Прабавалі некаторыя сяляне застаўляць канюшыну на другі год. Наш сусед у леташнім годзе пакінуў канюшыну на другі год і сталася так, што побач з нашым добрым жытам расла яго ня вельмі добрая канюшына. Ён часта бедаваў, што напрасна зглуміў толькі поле, але зімою, калі мурожнае сена было па 1 руб. пуд., а канюшына па 1 руб. 30 кап., дык вышла, што яго кепская канюшына дала больш прыбытку, чым наша добрае жыта. І калі на другі год у яго на гэтым месцы парос авёс такі, які ў яго яшчэ ніколі ня рос, то ён ужо канчаткова пераканаўся, што застаўляць канюшыну і на другі год карысна.

Мой бацька сеяў канюшыну і да вайны і пасьля вайны. У 1925 г. я ўзяў у крэдытным таварыстве 25 хунт. канюшыны, якім засеяў $^2/_3$ дзес., але канюшына не ўрадзіла, дзякуючы таму, што насеньне было загранічнае. У 1926 г. я ўжо засеяў канюшыны цэлую дзесяціну. Па ўсходам і росту увосень было відаць, што канюшына будзе добрая, калі добра перазімуе. Пашырэньне засеву канюшыны патрабуе шматпалёвых севазваротаў. Нашы сяляне гэта разумеюць і цяпер падалі заяву аб разьбіўцы вёскі Клешава на пасёлкі. На пасёлках разам з іншымі выгадамі яны хочуць завесьці і шматпольны севазварот, пры якім можна будзе мець добрыя ўраджаі канюшыны і жыта, завесьці пасевы караньплодаў і мець большую карысьць ад свае гаспадаркі.

Сел. **Я. Корзан.**

---

# Дасьледчая праца селяніна І. Сямёнава.

*(в. Позьнякава, Полацкай акр.) у 1926 г.*

1. Палепшаньне санажаці а) баранаваньнем з падсевам попелу, б) баранаваньне з падсевам пацярухі з-пад сена).
2. Праверан спосаб павялічэньня колькасьці гною праз ужываньне торфу на подсьціл.
3. Праверан спосаб палучэньня кампосту з торфу. (Куча торфу на працягу $^1/_2$ г. палівалася памыямі і мяшалася з рознымі адкідамі). Як угнаеньне, кампост робіць добры ўплыў.
4. Праверана значэньне попелу, як угнаеньне пад гародніну.
5. У гаспадарцы заведзены сяміпольны севазварот; ёсьць зарэгістраваны бык швіц і белая ангельская сьвіньня.

---

# З штодзёньніка селяніна-дасьледчыка Г. Шасьціткі.

*3/3-1926 г.* напісаў у рэдакцыю газэты „Чырвоная Полаччына" заметку „Упаўнаважныя і лясы мясцовага значэньня".

*9 XII-26 г.* перадаў у школу вёскі Стадала для вывучэньня: 1) два снапкі пяткускага жыта (адзін пасеяны па тамасшлаку, а другі без угнаеньня); 2) па аднаму снапку лубіну, сэрадэлі, канюшыны і выкі-зімкі. Насеньне гэтых расьлін перадана ў канвэрціках.

*13/XII-26 г.* даў аб'езчыку П. А. Капусьціну дзьве кнігі—Кастычаў „Аб угнаеньні зямлі гноем“ і Прышвін—„Як палепшыць поле і санажаць“.

*З 24-20* сьнежня правяраў усходнасьць сэрадэлі: з 100 зярнят узышло 70.

*22/XII* былі палучаны ад Дзяржаўнага Гідролёгічнага Інстытуту анкеты аб водным рэжыме—таўшчыні сьнегу, узроўні вады і інш.

*23/XII.* У „Чырвонай Полаччыне“ № 117 надрукавана заметка каморніка аб арганізацыі экскурсіі на наш хут. Сарнаполь, які карыстаецца сярод насельніцтва аўтарытэтам.

*24/XII.* Прывёз з вадакачкі ст. Полацак МББ ж. д. два мяшкі пячнога попелу. Загадчык вадакачкі казаў мне, што яго брат заўсёды бярэ попел з цэнтральнай вадакачкі ст. Пскоў і рассыпае па санажаці. Трава расьце высокая і густая.

*24/XI* Я атрымаў ліст ад прафэсара Ляўданскага—піша аб археолёгічных вынаходках, якія мне трапіліся знайсьці на гары каля вёскі Дзевічкі (гарадзішчы VI—VIII стагодзьдзя).

*24/XII* Чытаў у вёсцы Верхачаны свой артыкул („Плуг“ № 4 1926 г.) „Як скарыстаць начное золата“.




# Як пры перасадцы аберагчы дрэва ад ажогаў.

Цяпер шляхам досьледу выяўлена прычына, ад чаго бываюць ажогі пладовых дрэў. Яны зьяўляюцца іменна таму, што дрэва пры перасадцы з аднаго месца на другое пападае ў няпрывычныя для яго росту ўмовы. Перасаджваючы дрэва на новае месца, трэба даць яму ўсе тыя выгады, якія яно мела на старым месцы. Лепш было-б, каб яно мела больш сьвету, лепшую глебу і поўную забясьпечанасьць вадою, чым там, адкуль яго ўзялі.

Усе гэтыя выгады нашы садаводы па большай часьці дрэву даюць. Яны старанна рыхтуюць глебу, каб быў свабодны доступ сьвежага паветра да карэньняў, сваечасовай паліўкай выклікаюць рост дрэўца і г. д. Але садаводы ніякай увагі не зварочваюць на адну з важнейшых умоў правільнага росту дрэва, іменна: на тое, каб дрэўца ў належнай меры асьвятлялася сонцам.

На старым месцы (у пітомніку ці дзе) маладое дрэўца прызвычаілася, каб яго асьвятляла сонца з пэўных бакоў, а на новым месцы можа стацца так, што яно будзе асьвятляцца па іншаму. Вось на гэтых цяпер неасьветленых баках і зьяўляюцца ажогі. Каб пазбавіцца іх, трэба пры выкопваньні дрэўца для перасадкі, зазначыць карандашом той бок, якім дрэўца было павернута на поўдзень. Бязумоўна, пры гэтым трэба мець з сабою компас, каб ведаць дзе поўдзень. Калі выкапанае дрэўца садзіць на новае месца, то трэба зазначаным бакам садзіць зноў на поўдзень, як яно і расло на старым месцы. Тагды яно будзе расьці ў прывычных умовах.

Бязумоўна, гэта не пазбавіць перасаджанага дрэва ад ажогаў, зусім: сям там яны могуць зьявіцца, але рэдка. Такія ажогі могуць залежаць ад мясцовых прычын. Так, напрыклад, іншыя дрэвы могуць сваімі каронамі засланяць цэлае лета маладое дрэўца ад сонца. Ад такіх прычын часта можна пазбавіцца і тым самым выратаваць дрэўца ад ажогаў.

Я думаю, што апісаны мною спосаб перасадкі дрэў па компасу можа мець значэньне і для ўсіх ягадных кусьцікаў. На вялікі жаль, так нельга перасаджваць аднолетніх ці двухлетніх расьлін, як капуста, бо іх вельмі шмат. Але іх арганізм лягчэй можа рэгуляваць цяпло і ня так баіцца перамен тэмпэратуры.

Для такіх высадак такі спосаб перасадкі можна было-б ужываць для вопыту толькі пры дасьледчай ці сэлекцыйнай працы, як напрыклад, на вопытных станцыях.

Праф. **М. Бернацкі.**

# Догляд пчол зімою.

Я хачу пазнаёміць пчаляроў з працаю, якую я вяду зімою на сваёй пасецы. Зімою пчолы знаходзяцца ў паўсонным стане. Толькі ў самым канцы лютага яны патроху пачынаюць ажываць. Праз усю зіму пчаляр павінен даглядаць пчол, каб на весну ўсе сем'і вышлі сільнымі і здольнымі да працы. Праз кожныя 2—3 тыдні трэба аглядаць вульлі, ці не залезьлі туды мышы. Пазнаць гэта можна па шораху, альбо па сене, якое будзе пацёрта. Калі яны знойдуцца, то трэба зьняць пакрышку з вульля, павыганяць мышэй ды зноў закрыць вулей. Гэта трэба рабіць таму, што мышы сваёй грызьнёй турбуюць пчол. Ад непакою пчолы больш зьядаюць мёду, іх жывоцікі перапаўняюцца, пчолы робяцца цяжкімі і адвальваюцца ад клубка і гінуць. Мёртвыя пчолы пападаюць на падлогу вульля, западаюць у ляткі (дзірачкі) і закрываюць сабою праход сьвежага паветра ў вулей, без якога ніхто жыць ня можа. Апрача таго, на падлозе мёртвыя, пазвальваўшыяся ў кучы пчолы могуць загнісьці і заплесьняць. Каб пазбавіцца ад гэтага, трэба праз кожныя два тыдні кіёчкам прапорваць ляткі, каб быў свабодны праход паветра і праз кожны месяц ачышчаць вулей. Лепш лішні раз патурбаваць пчол, чым цэлы месяц трымаць іх акружанымі гнілізнай. Кожны з пчаляроў ведае, на колькі пчолы апратныя, бо бачыў, як яны вясною выносяць з вульля кожную сьмяцінку. Трэба гэтую чыстату захоўваць, бо ад яе залежыць здароўе пчол.

Каб даведацца, у які бок пасоўваецца клубок, а таксама ці не загінула матка, я раблю так: праз ніжні лятак, калі сыстэма Дадана, (у сыстэме Лявіцкага праз заднія дзьверцы) я прасоўваю аркуш белай паперы і раскладваю яго пад рамамі. Па расьпячатаньню сотаў я бачу, куды сунецца клубок з пчоламі, колькі рамак займаюць пчолы, з якога боку, колькі пчол асыпалася і ці ёсьць сярод іх матка. Калі матка мёртвая, то вясною пчолам трэба дапамагаць.

Апрача догляду пчол, трэба для іх купляць штучную вашчыну, бо для таго, каб зрабіць 1 хунт вашчыны, пчолы зьядаюць 10 хун. мёду. Замест таго, каб мёд насіць, пчолы будуць рабіць вашчыну. Для пчаляра-ж гэта зусім нявыгадна. Але трэба толькі не пазьніцца з гэтым, бо той час, калі пчолы рыхтуюцца рабіць вашчыну цягнецца ўсяго некалькі дзён. Прапусьціўшы яго, нічога ня зробіць.

(Плем. гаспадарка Калініна). **С. Шчарбовіч.**

---

# Як палепшыць вулей-калоду.

*(Працяг).*

І калоды можна рабіць рамовымі. Для гэтага годны як стаякі, так і ляжакі, апошнія нават яшчэ лепш. У сярэдзіне рамовая калода павінна быць чатырохкутнай. Але, для пераробкі на рамовыя годны толькі тыя калоды, якія маюць тоўстыя сьцены.

Рамовыя калоды-стаякі лепш рабіць так, каб у іх можна было зьмясьціць рамкі ў тры ярусы адзін над другім. Тады верхні ярус будзе магазынам, а два ніжнія гнёздамі для пчол. Мёд у канцы ўзятку бярэцца з галавы калоды-магазына, а на апошнія кладзецца дошчачка ва ўсю шырыню вульля і так пакідаецца на зіму.

Рамкі ў такі вулей усоўваюцца ззаду праз утулачную дзірку. Для іх у абедзьвюх сьценках вульля выбіраюцца тры пары пазаў, у якія яны ўваходзяць сваімі вушкамі і такім чынам зьмяшчаюцца ў вульлі.

Адлегласьць паміж аднэй і другой рамкамі, а таксама паміж рамкамі і сьценкамі вульля павінна быць звычайная. Паміж ярусамі рамак адлегласьць раўна $^3/_8$ цалі; у верхнюю лінейку рамкі таксама трэба ўбіваць цьвікі.

*У ляжачай калодзе* ўсе рамкі можна вымаць уверх і кожную асобна, не чапаючы другіх. У сярэдзіне такая калода таксама чатырохкутная. З надворнага боку навакол калоды прыбіваюцца дошкі, а затым на дошкі надзяваецца страха.



1. Калода. 2. Утулка. 3. Рамка. 4. Паза для рамкі.

У сярэдзіне вульля зьверху на доўгіх сьценах калоды выбіраюцца маленькія фальцы, і на іх вешаюцца рамкі. Страха зьвязваецца рамай з чатырох дошак. Бакавыя дошкі яе робяцца вышэй і скошаныя на абодва бакі. Верх страхі забіваецца дошкамі. Разьдзеляцца рамкі адна ад другой, убітымі ў верхнюю лінейку рамкі, цьвікамі. Паверх рамак кладзецца абмазанае воскам палатно, а на верх яго падушка. Так вулей застаецца на зіму. Летам-жа на палатно трэба класьці што-небудзь лягчэйшае, напрыклад, салому.

Калі вулей у сярэдзіне невялікі, то паверх рамак, зьняўшы палатно з саломай, у час узятку ставяць скрынку з рамкамі супроць гнязда. Гэта скрынка і будзе магазынам. Палатно і салому трэба палажыць на верх скрынкі. Ляток робіцца нароўне з падлогай. У вульлі з абодвых бакоў ёсьць па аднэй устаўной дошцы. Устаўныя дошкі павінны ўваходзіць у сярэдзіну вульля і мець вушкі, якімі яны і навешваюцца ў чвэрць вульля разам з рамкамі. Калі рамкі вымаюцца з вульля, то дошкі прысоўваюцца да тых, якія засталіся, і наадварот. Дзякуючы гэтаму пчолам ня трэба абаграваць лішняй плошчы ў вульлі, а толькі тую, якую займаюць рамкі. Абодвы канцы ляжачай рамовай калоды павінны быць на аднолькавай вышыні.

Усе палепшаныя калоды значна лепей звычайных простых. У іх лягчэй працаваць і пчолы даюць больш мёду. Асабліва трэба зьвяр-

нуць увагу на палепшаньне калод тым сялянам, якія ня могуць набыць рамовыя вульлі.

Тыя калоды, у якіх сьценкі тоўстыя, можна перарабіць на рамовыя.

Вадзіць пчол у непалепшаных калодах трэба кінуць, бо ад гэтага малы прыбытак. Якое-б мы палепшаньне ў калодзе не зрабілі, яно заўсёды дасьць карысьць, што мне вядома з сваёй практыкі.

А ў каго ёсьць магчымасьць і няма старых калод, то лепш пачынаць вадзіць пчол у рамовых вульлях.

Селянін **А. Магучы.**

---




## Да рэжыму эканоміі ў вёсцы.

„Час—грошы“, кажа амэрыканец. Мы часта гэтага ня ведаем і дарма трацім шмат часу. Возьмем такі прыклад. Вада ў нас знаходзіцца ў адлегласьці аднае вярсты. Кожны дзень мы ня менш пяці раз ходзім па ваду, два разы ганяем паіць скаціну і столькі-ж езьдзім конна на вадапой. А колькі дарма часу трацяць нашы жонкі, прастойваючы кожны дзень каля студні.

Наладзіўшы бочку, патрэбна было-б зьезьдзіць па ваду толькі адзін раз у суткі. Такім чынам, можна зьберагчы шмат часу і скарыстаць яго больш карысна.

Цяпер возьмем яшчэ адзін бок нашага жыцьця. Мы ня ўмеем берагчы нашага багацьця і нават часта зусім яго не прыкмячаем. Напрыклад, часта веснавая вада падыходзіць у наш хлеў пад гной і вымывае з яго гнаёвую жыжку. Такім чынам, самая карысная частка гною прападае дарма ў гаспадарцы. А некаторыя гаспадары нават самі спускаюць з хлява гнаёвую жыжку, каб сушэй было скаціне. Для скарыстаньня жыжкі неабходна, як мага больш подсьцілу, які будзе ўцягваць яе ў сябе. Не скарыстанага-ж подсьцілу ў гаспадара шмат валяецца. Шмат подсьцілу можна набраць і ў лесе. Можна для гэтае мэты ўжываць мох, апілкі, сухі торф і інш.

Начное золата—лепшае ўгнаеньне, таксама застаецца нескарыстаным. Далей возьмем нашы рускія печы. Ад пачатку да канца коміны ніводнага звароту ў бок ня маюць. Усё цяпло ідзе ў неба. Цяпер, у час пабудовы новай вёскі, лішняя сотня цэглы на абароты цягі ў печы можа зьберагчы шмат дроў.

У вёсцы часта чуем—„зямлі мала, зямлі мала“, а паглядзіш, дык у яго валяецца шмат зямлі не скарыстанай. Каля будынку, пад капяжамі часта расьце быльлё, дзе маглі-б расьці кусты парэчак. У некаторых гаспадароў ёсьць пустыры, дзе расьце асот, лопух, палын, а тэтыя травы паказваюць, што тут з посьпехам можа расьці морква, капуста, буракі і нават канюшына.

На вёсцы часта кажуць няма „капіталу“. Капітал-жа ў гаспадарцы ёсьць—гэта зямля, але яго ня ўмеюць скарыстаць. Калі зямлю на зіму заараць, дык яна дасьць лепшы ўраджай:—капітал расьце. Калі-ж заставіць яе дзерваном, дык яна будзе ляжаць мёртвым капіталам.

Шмат трацім мы і на каровах, калі ня кормім па нормах. Багатае кармленьне—ратунак, а беднае — страта. Шкодна гаспадарцы вялікая match рознастайнасьць сартоў збожжа. Усе гэтыя сарты пры малацьбе часта перамяняюцца і мы ня можам захаваць сартовага насеньня.

Кожны сорт гэтага збожжа адымае шмат лішняга часу на засеў, прыборку і малацьбу. На гаспадарку трэба глядзець, як на камэрцыйнае прадпрыемства і заўсёды берагчы час і на ўсім трэба эканоміць і мы ў штодзённым жыцьці павінны помніць прыказку: „капейка—грошы, мінута—час".

Сел. **М. Зьвераў**.

## Патрэбен сельска-гаспадарчы досьлед.

Як селянін, які наогул цікавіцца сельска-гаспадарчым жыцьцём, я хачу выказацца па аднаму вельмі важнаму пытаньню. Да гэтага часу дасьледчая праца ў нас яшчэ ў загоне; на яе даецца мала дзяржаўных сродкаў. З літаратуры я бачу, якое значэньне маюць даныя сялянскіх досьледаў.

Але і сяляне-дасьледчыкі трацяць мала сродкаў на досьледы ці з-за адсутнасьці іх, ці можа гэта дурны перажытак старага часу—скупасьць.

Але бясспрэчна адно, што дасьледчая праца вельмі важна. Вось чаму Наркамзему Беларусі і неабходна адпускаць на яе, як мага больш сродкаў. Царскі ўрад дапамагаў Энгельгардам і Шацілавым, каб зрабіць іх вядомымі ў гісторыі дасьледчай справы Расіі. Савецкая-ж Улада будзе выяўляць сваіх дасьледчыкаў-сялян. Я думаю, што з бегам часу каля некаторых сялян-дасьледчыкаў разгорнуцца дасьледчыя ўстановы малога разьмеру.

Сельская гаспадарка павінна карыстацца праўдзівымі данымі, а гэтага можна дасягнуць толькі пры дапамозе досьледаў. Досьледам я надаю вялікае значэньне ў сельскай гаспадарцы. Бяз досьледаў сяляне будуць хадзіць у пацёмку з закрытымі вачмі. Бяз досьледу на сваіх палёх мы нясем вялікую трату. Такі просты прыём, як вымочваньне зярнят перад пасевам у навознай жыжцы ці вадзе-шчолаку, павялічвае ўраджай на 30-40 проц.

Я, напрыклад, захапіўся пасевам морквы на сваім полі. Ад 1919 г. да сёлетняга, я абышоў пасевам морквы ўсё сваё поле. Бручкі-ж я сеяў меней. У гэтым годзе кантрольныя барозны далі такі вынік, што бручку сеяць схадней, чым моркву. Цяпер пераважна буду сеяць бручку, а моркву зьменшу, каб толькі камбінаваць дачу корму каровам.

У Беларусі глебы пераважна балоцістыя альбо падзолістыя і пескавыя. Усе яны належаць да так званых халодных глебаў і патрабуюць да сябе вельмі ўмелых і ўважлівых адносін. Нават у аднэй гаспадарцы сустракаюцца ўсе віды пералічаных глебаў. А адна і тая-ж расьліна на рознай глебе ня можа расьці аднолькава.

Вось чаму ў нас на Беларусі больш, чым у другіх рэспубліках Саюзу, патрэбна пашырэньне дасьледчай працы і ведаў па сельскай гаспадарцы.

Сел. **М. Зьвераў**.

## Як вядзе гаспадарку Казачонак Нічыпар.

*(Вёска Закоркі, Сьвіслацкага р., Бабруйскае акругі).*

Гаспадарка Нічыпара Казачонка мае 4 дзес. пахаці, адну дзес. сухадольнай і адну дзес. заліўной сенажаці, $^{3}/_{4}$ дзес. выгану. Па сваёй культурнасьці яна заслугоўвае вялікае ўвагі.

Зямля Казачонка займае роўную плошчу з невялікім нахілам на захад. Глеба—супесь і суглінак (трохі ападзолены). Палучыўшы гэту зямлю, як хутар, Казачонак пачаў на ёй працаваць ня зусім удала, бо ня ведаў, як весьці гаспадарку культурна. Але ў 1923 годзе ён скончыў 3-х месячныя сельска-гаспадарчыя курсы і пасьля гэтага пачаў уваедзіць розныя новыя мерапрыемствы. Перш за ўсё разьбіў сваё поле на 8 палёў замест старой трохпалёўкі. Тры гады замацоўваўся новы севазварот.

У 1926 годзе Казачонак ужо сеяў тыя расьліны, якія адпавядаюць усёй сыстэме гаспадаркі. Таксама маецца ўжо і шмат дасягненьняў. Галоўныя з іх пералічаны ў табліцы.

Ураджай галоўных расьлін у пудох на адну дзес.

| У 1923 г. пры трохполіцы. | | У 1926 г. пры 8-міпольлі. | |
|---|---|---|---|
| жыта | 40 пуд. | жыта | 75 пуд. |
| ячменю | 40 „ | ячменю | 98 „ |
| бульбы | 400 „ | бульбы | 800 „ |
| аўсу | 43 „ | аўсу | 70 „ |
| канюшыны | — „ | канюшыны | 200 „ |

Як відаць з паказаных даных, то 8-міпольле значна павысіла ўраджай.

Маецца ў Казачонка і культурны сад з 18 дрэў. Узрост саду 12-15 гадоў. Сярэдняя штогодняя ўраджайнасьць 4-5 пудоў з дрэва.

Неабходна спыніцца на доглядзе за садам. Кожны год робіцца абрэзка, збор сухіх лісьцяў увосень і пабелка вясною. Угнойваецца сад гноем, які вывозіцца ўвосень і заворваецца. Робіцца апрыскваньне раз у два гады супроць розных шкоднікаў і грыбных хвароб.

Жывёла ў Казачонка не пародзістая, а мясцовая палепшаная. Каровы кормяцца па дацкіх нормах. Кожнай даецца на дзень, прыблізна, саломы яравой—8 хун., сена лугавога—9 хун., бульбы—8 хун., 2 хунты канюшыны, 4 хун. абмецьця і 1 хун. мукі.

З пачатку, гаворыць Казачонак, ён ня верыў, што пры такой колькасьці корма, карова будзе даваць 20-25 хунт малака, а цяпер упэўніўся ў гэтым.

Урэшце, я хачу сказаць, што гаспадарка да пераходу на шматпольле была вельмі беднай і не магла пракарміць 5 чалавек сямьі, 1 карову і каня. Цяпер-жа ў гаспадарцы маецца конь, жарабя 2-х гадоў, 2 каровы, 1 бык і 6 сьвіней.

З гаспадаркі Казачонка цяпер можна браць прыклад. Сам Казачонак вельмі цікавіцца папаўненьнем сваіх агранамічных ведаў. Ён выпісвае „Сам сабе агроном“, „Плуг“, газэту „Камуніст“ і імкнецца правесьці ў сябе тое ці іншае палепшаньне, як гэта раіць навука.

Гаспадарка Казачонка мае значны ўплыў на ваколічныя гаспадаркі. Шмат хто зьвяртаецца да яго за рознымі парадамі і пераводзяць сваё поле на шматпольле.

Больш такіх гаспадароў!

Агр. **С. Багдашыч.**

# С.-г. курсы ў Мсьціслаўскім раёне.

З 15-га лістапада мінулага году па студзень гэтага году ў раёне праведзены 3-х тыднёвыя курсы ў в. Курманава і 3-е аднатыднёвых курсаў у в. в. Колтава, Вялікая Рубанаўка і Верханскай камуне. Праз усе курсы прайшло пастаянных слухачоў, якія самастойна вядуць гаспадарку, 116 чалавек і пераменных слухачоў 124 чал. Жанчыны на курсах складалі 25 проц. усяго ліку слухачоў. Настаўнікаў прайшло праз курсы ў якасьці пастаянных слухачоў 5 асоб, іншых інтэлігентаў 3, безьзямельных рамесьнікаў 2.

Курсы праводзілі аграномы раёну з дапамогай акруговых спэцыялістых, якія прыяжджалі на курсы, па пчалярству і культуры балот. Усе чытаньні і гутаркі вяліся з паказваньнем сьветавых малюнкаў, якіх на кожных курсах паказана да 500 штук.

Хоць аб выніках курсаў трохі яшчэ рана гаварыць, але некаторыя з іх можна ўжо адзначыць. Так, слухачы курсаў у в. Колтава з'арганізавалі коняводнае таварыства і выпісалі некалькі газэт і часопісяў. У в. Курманава за працяг курсаў добра ацеплен будынак для жывёлы, прасечаны і зроблены ў хляве вокны, зроблены дацкія кармушкі і каровы пастаўлены на прывязь з палепшаным кармленьнем. У вёсцы Вялікая Рубанаўка шмат сялян на курсах проста заявілі: „па старому гаспадарыць нельга, хутчэй увадзіце ў нас шматпольныя севазвароты“.

Аб тым, чым больш цікавяцца сяляне ў сучасны момант, сьведчаць наступныя пытаньні сялян на кожных курсах: „ці будзе сёлета добрае насеньне караньплодаў, бо летась у прыватных гандляроў куплялі „кармовыя“ буракі, а вырасьлі мясцовыя; ці будзе канюшыннае насеньне, якая цана на штучныя ўгнаеньні, дзе ўзяць прышчэпы для саду, ці скора будуць прадаваць прышчэпы з выхавальніка ў саўхозе Лютня-Бобрыкі, ці ёсьць у гэтай гаспадарцы іоркшырскія парасяты“ і г. д.

Паміж іншым, трэба адзначыць, што памянёная гаспадарка за мінулы год прадала сялянам значную колькасьць парасят іоркшырскай пароды і ў бягучым годзе зможа выпусьціць звыш 20.000 прышчэп.

Таксама трэба адзначыць адзін бок сялянскай думкі, альбо, вярней, сялянскай псыхолёгіі: калі 10 год таму назад селянін, як дзікар, сьлепа верыў у залежнасьць ураджаю ад божай волі, дык гэты самы селянін цяпер пытае: „чаму трэба глыбокая ральля, чаму карэньню расьлін трэба паветра“. Гэта значыць, што разам з выкладаньнем практычных прыёмаў земляробства, ці скажам, жывёлаводзтва, селяніну трэба даваць і навуковае тлумачэньне с.-г. зьявішчаў.

**І. Крупень.**

# ЗЯМЛЕУПАРАДКАВАНЬНЕ.

## Барацьба з малазямельлем.

Апошнімі гадамі ў нас усё больш і больш адчуваецца малазямельле. Некаторыя сяляне, баючыся застацца зусім бяз зямлі, цягнуцца на перасяленьне. Едуць за некалькі тысяч кілёмэтраў, церпяць холад, голад, ня ведаючы што іх там чакае.

Усё гэта здараецца з тае прычыны, што чалавек не чакае перасяленьня па пляну. Дзяржава аб гэтым клапоціцца, але ня можа хутка здаволіць адразу ўсіх, хто хоча перасяліцца.

Вось тут і трэба паставіць пытаньне—ці трэба баяцца малазямельля? Можна адказаць, што ня трэба, бо калі мы паглядзім на абшары нашых палёў, сенажацяй і няўдобіц, то ўбачым, што зямлі ў нас яшчэ многа, але мы ня ўмеем яе скарыстаць. Мы маем плошчы зямлі, якія сотні год ляжаць нераспрацаванымі, а паглядзеўшы бліжэй, бачым, што і зямля добрая. Калі гэту зямлю апрацаваць згодна з агранамічнай навукай, калі пачаць сеяць сартовым насеньнем, ды падбіраць тыя расьліны, якія па мясцовых умовах даюць лепшы прыбытак, тады можна было-б мець добрую карысьць.

Мы чытаем аб баечных замежных ураджаях (Даніі або Швэйцарыі). А калі мы разгледзім гэтыя старонкі з геаграфічнага боку, то ўбачым, што глеба і клімат у гэтых старонках ня лепшыя, чым у нас. У чым-жа справа? А вось у чым. Культура Даніі ці Швэйцарыі многа вышэй нашай. Наша старая ўлада трымала нас у цемры і ў такіх умовах, каб мы не маглі памерці з голаду і ўсё сваё жыцьцё працавалі за кавалак хлеба, каб нам ня было часу думаць аб якой-небудзь культуры, бо культура—шлях да рэволюцыі. Мы ведаем, што нашы бацькі, а таксама дзяды мелі больш нашага зямлі, а між іншым елі хлеб з мякінай.

Цяпер мы самі ўладары сваёй старонкі. Можам самі будаваць сваё жыцьцё, без усякіх перашкод, пановаму, павучонаму. І мы пачынаем перабудоўваць сваю вёску з старога на новы лад. Але мы яшчэ адсталыя, хоць за дзевяць год шмат пасунуліся наперад.

У сучасны момант, уступаючы ў дзесятую гадавіну Кастрычнікавай Рэволюцыі, мы маем значныя дасягненьні. Савецкая Улада імкнецца падняць сельска-гаспадарчую культуру. Мы ўпэўнены, што не ў далёкай будучыне мы будзем выпярэджваць замежныя краіны. У сучасны момант мы маем даволі шмат агранамічнай літаратуры, сярод якой значнае месца на абшарах БССР займае часопіс „Плуг“, а з маскоўскіх—„Новая Деревня“, „Сам себе агроном“. Пры дапамозе гэтай літаратуры гаспадар будзе „сам сабе аграном і настаўнік, сам сабе кіраўнік“, бо яна грунтуецца на навуцы і практыцы.

Раней праца селяніна-гаспадара цанілася надта нізка, запраўды-ж праца земляроба вельмі каштоўная: яна патрабуе многа ведаў; мала чалавечага жыцьця, каб ведаць усё тое, што неабходна, каб палучыць ад зямлі тое, што яна можа даць.

Давайце-ж паляпшаць сваю гаспадарку, выпісваць і чытаць агранамічную літаратуру, падбіраць расьліны, рабіць досьледы. Давайце паднімаць свой культурны ўзровень. Гэтым мы пераможам нашага ворага—бядоту.

Селянін **Т. Апет.**

(Бялынкавічы, Калінінскай акр.).

# Хворае пытаньне сучаснае вёскі.

Галоўнай мэтай Савецкая Улада ставіць сабе разьвіцьцё гаспадаркі селяніна-бедняка. На гэта дзяржава накіроўвае сваю увагу і траціць шмат сродкаў. Але бядняцкія сялянскія гаспадаркі растуць, як грыбы, дзякуючы частым падзелам. Каб падкрэсьліць гэту думку, я прывяду прыклад з сваёй вёскі. У 1923 г. у часы зямляўпарадкаваньня ў нашай вёсцы было 152 гаспадаркі, а ў сучасны момант 178. Як мы бачым, за тры-чатыры гады ўтварылася 26 сялянскіх гаспадарак. Гэтыя 26 гаспадарак прызнаны раздзельнымі, але акрамя іх ёсьць каля 20-25 гаспадарак, якія ня маюць юрыдычнага разьдзелу. Усе гэтыя гаспадаркі самыя бядняцкія

Зараз застанаўлюся на самым працэсе нараджэньня гэтых гаспадарак. Малады хлапец гадоў 19-22—ужо ажаніўся. Пажыўшы некаторы час і з-за якога-небудзь глупства ў сям'і пачынаюцца спрэчкі (найчасьцей з жанчын), якія спачатку здараюцца рэдка, але і яны выклікаюць у хлопца думку аддзяліцца ад бацькі. Далей спрэчкі раздуваюцца і хлопец, не падумаўшы, што яго чакае ў будучыне, патрабуе разьдзелу.

А часта бяз усякага начальства ў сям'і ўтвараецца, так званы, добраахвотны разьдзел—рассыпаюць збожжа, ломяць будынкі, дзеляць інвэнтар і інш.

Малады гаспадар атрымоўвае, якую-небудзь будыніну на хату, трысьцен, карову і каня, калі гаспадарка мае двое коняй. Вось амаль усе яго прылады, з якімі прыходзіцца завадзіць гаспадарку.

Пачынаецца цяжкая і марудная праца маладога гаспадара. Праўда, спачатку ў яго шмат уздыму і энэргіі, каб адбудаваць сваю гаспадарку, але ўся праца і ўздым хутка прападаюць задарма.

У новага гаспадара няма патрэбнага лесу, каб паправіць хату, няма сродкаў, каб набыць недастаючай жывёлы, бяз якой нельга гаспадарыць, няма мёртвага інвэнтару (плуга, бараны). Аб забясьпечнасьці гэтай гаспадаркі гаварыць ужо ня прыходзіцца. Добра, калі яна мае 3 дзесяціны. Пачынаецца абіваньне парогаў у зямельнай камісіі, у сельсавеце, у крэдытовым т-ве і г. д. І гэта таптаньне надта часта ня мае ніякіх вынікаў, бо гаспадарка ня мае юрыдычнага разьдзелу.

Праходзіць час за маруднай працай, малады гаспадар траціць значную частку свайго галоўнага багацьця—*фізычнае сілы*. А гаспадарка яго пасьля разьдзелу, як была бядняцкай, такой і засталася. Жыве ў хаце з адным вакенцам без усякай абсталёўкі. Малыя дзеці больш паловы ня бачаць малака, ня добра і жонцы, якая мае дзяцей, спраўляцца з усялякай працай у гаспадарцы.

Бывае шмат і такіх выпадкаў, калі безнадзейны гаспадар кідаецца ў горад шукаць працы, але там не знаходзіць, альбо перасяляецца ў Сібір самавольна і тым якраз сустракае ўсю тую бядоту, якую апісаў у № 12 „Плуга“ П. Бойка.

У гаспадарцы-ж да падзелу магчыма было жыць і добра бяз усякай дзяльбы; скарыстоўваць дапамогу Улады ў справе падняцьця гаспадаркі, пашыраць такія даходныя галіны, як жывёлагадоўля, садоўніцтва, гародніцтва і інш. Тут усім членам сям'і знойдзецца праца. Для прыкладу я вазьму добра вядомую на Беларусі гаспадарку Я. Мароза (Фатынь, Барысаўшчына), якая мае ў сваім складзе 25 членаў сям'і. Такая гаспадарка без паддзелу ніколі ня ўтраціць сваёй самастойнасьці.

Зараз у вёсцы падзел гаспадарак зьяўляецца найбольш вострым і балючым пытаньнем.

(В. Бракава, Магілеўшчына). Сел. **М. Тарасенка**

---

# Пытаньні і адказы па зямельных справах.

Пытаньне 66. На грунце арт. 3 пастановы Савету Народных Камісараў за 10 красавіка 1925 г. аб прыпынку падзелаў сялянскіх гаспадарак і увагі да арт. 9 правілаў аб парадку ўчыненьня сямейных падзелаў, лічацца законнымі ўсе сямейна-маёмасныя падзелы двароў, якія падзелы фактычна зроблены раней 7 чэрвеня 1925 г. Узьнікае пытаньне, якія-ж гаспадаркі трэба лічыць фактычна падзельнымі і як устанаўляецца гэта падзельнасьць. (Менская акрземкамісія.

Адказ. Лічыць падзельнымі належыць толькі такія двары, якія падзяліліся раней 7 чэрвеня 1925 г. і з таго часу паасобна жывуць і паасобна карыстаюцца зямлёй і іншай маёмасьцю. Акалічнасьці гэтыя ў выпадку неабходнасьці могуць быць пацьверджаны пасьведчаньнем Райвыканкому, а пры ўнутрывясковым зямляўпарадкаваньні прыгаварам зямельнага таварыства.

Пытаньне 67. Якую норму пры зямляўпарадкаваньні могуць атрымаць цяпер грамадзяне, якія ў пачатку 1924 г., згодна пастановы валасной зямельнай камісіі, надзелены зямлёю з запаснага фонду, але ня ў межах належных норм. (Бабруйская акрземкамісія).

Адказ. Грамадзяне, якія надзелены зямлёй, згодна судовай пастановы зямельнай камісіі раней увядзеньня ў дзейнасьць новага зямельнага кодэксу, маюць на гэтую зямлю права працоўнага карыстаньня. Дзеля гэтага пры зямляўпарадкаваньні яны атрымліваюць мінімальную норму толькі ў тым выпадку, калі ня былі ёю забясьпечаны; атрымліваюць максімальную норму, калі перад зямляўпарадкаваньнем мелі звыш яе. У іншых выпадках пазастаюцца пры фактычным зямлякарыстаньні.

Пытаньне 68. Ці маюць права зямельныя органы адмовіць грамадзяніну ў хадайніцтве аб зарэгістраваньні дагавору на здачу зямлі ў працоўную арэнду толькі дзеля таго, што здатчык адзінокі інвалід і атрымлівае дапамогу ад Наркамсабезу.

Адказ. На грунце 27 арт. Зям. Код. здача зямлякарыстацелем усей альбо часткі зямлі ў працоўную арэнду дазваляецца, паміж іншым, пры недахопе ў гаспадарцы работнікаў альбо хваробе іх. Дзеля гэтага адзінота, а таксама інваліднасьць, хоць-бы і зьвязаная з атрыманьнем дапамогі, ня могуць перашкаджаць зарэгістраваньню дагавору працоўнай арэнды, бо за час яе можа павялічыцца склад двара здатчыка шляхам шлюбу, альбо прыняцьця ў сям'ю яго новых членаў, а атрымліваемая ад Сабезу дапамога і арэндная выплата дадуць здатчыку

магчымасьць палепшыць яго гаспадарку. Зямля ад яго можа быць адабрана толькі ў тым разе, калі ён, па сканчэньні вызначанага законам тэрміну арэнды, ня возьмецца за самастойнае вядзеньне гаспадаркі на зданай у арэнду зямлі.

Пытаньне 69. Ці можа зямельная камісія па хадайніцтву грамадзян замацаваць у сталае працоўнае іх карыстаньне быўшую памешчыцкую сенажаць, якою яны карысталіся пасьля рэволюцыі з дазволу лугавых камісій, а потым на падставе дагавораў з Райвыканкомамі. (Магілеўская акрземкамісія).

Адказ. Хадайніцтва грамадзян аб надзяленьні ў сталае працоўнае карыстаньне сенажаці, якая знаходзіцца ў складзе дзяржаўнай зямельнай маемасьці, падлягае здавальненьню толькі ў тым разе, калі органы, якія распараджаюцца гэтай сенажацьцю, згодзяцца на выключэньне яе са складу дзяржмаемасьці. Надзяленьне тады гэтай сенажацьцю ў сталае зямлякарыстаньне грамадзян будзе рабіцца ў парадку зямляўпарадкаваньня.

Пытаньне 70. Калі перадаваемая са складу дзяржземмаемасьці альбо ляснога фонду ў запасны, зямля ня можа быць адразу разьмяркована ў парадку зямляўпарадкаваньня сярод грамадзян, якія маюць права на атрыманьне зямлі ў сталае працоўнае карыстаньне, дык ці можна гэтую зямлю распараджэньнем Райвыканкому перадаць грамадзянам у часовае працоўнае карыстаньне, пакуль не адбудзецца зямляўпарадкаваньне.

Адказ. Нельга, бо зямельны кодэкс ня ведае часовага працоўнага карыстаньня. На грунце арт. 12 працоўнае карыстаньне зямлёю ня мае тэрміну.

Пытаньне 71. Калі перадача запаснай зямлі ў часовае працоўнае карыстаньне не дазваляецца, дык як гэта зямля можа быць скарыстана, пакуль не адбудзецца зямляўпарадкаваньне.

Адказ. Зямля перадаецца ў запасны фонд дзеля разьмеркаваньня яе ў парадку зямляўпарадкаваньня ў працоўнае карыстаньне сялян. Калі зямляўпарадкаваньне затрымліваецца па тэхнічных прычынах, запасная зямля не павінна пазаставацца нескарыстанай. У гэтым выпадку Райвыканком можа здаваць гэту зямлю ў каротка-тэрміновую арэнду сялянам з залічэньнем арэндных выплат у прыбыткі ад дзяржземмаемасьці раённага значэньня

---

# Хроніка.

## Новае ў аграноміі.

*(З дакладу, які быў прачытан на Пленуме Дасьледчага Бюро пры Інбелкульце).*

У апошнія 10-15 год у біохімічнай і наогул біолёгічнай літаратўры асаблівую увагу зьвяртаюць на новы мэтад дасьледваньня, а іменна: ***на распазнаваньне рэакцыі*** таго ці іншага раствору („среды"), альбо так званай ***актыўнай кіслотнасьці***. Гэты мэтад (а ім шырока карыстаюцца ў аграноміі) і зараз даў ужо шмат цікавых і практычных вынікаў.

Галоўнае гэтага мэтаду зьяўляецца ў тым, што мы, дзякуючы яму, можам колькасна вызначыць актыўную кіслотнасьць, або шчолачнасьць глебы, сока ў расьлін, малочных прадуктаў і г. д.

Гэты мэтад вызначэньня кіслотнасьці грунтуецца на законах фізыка-хіміі і выпаўняецца двума спосабамі або *калёрымэтрычным* (гэты мэтад менш складаны і ў той-жа час ня вельмі дакладны) або *электромэтрычным* (тут патрэбна ўжываць даволі складаныя і дарагія фізычныя прылады—100-400 руб.).

Паміж іншым ня вельмі складаныя апараты для калёрымэтрычнага мэтаду можна купіць за кардонам Саюзу за 20 руб.

Якое-ж значэньне мае названы мэтад для сельскай гаспадаркі? Затрымаемся спачатку на палявой гаспадарцы. Даволі шмат досьледаў апошніх 5 год паказалі, што нашы пасеўныя расьліны маюць розныя запатрабаваньні да глебы ў сэнсе яе рэакцыі: адны лепш растуць на больш кіслых глебах, другія на шчолачных. Выразна аб гэтым гаворыць наступная табліца:

| На значна кіслай глебе PH[1])—5 | На кіслай глебе PH--5-6 | На слаба-кіслай глебе PH—6 | На нейтральнай глебе PH—7 | На шчолачнай глебе PH—больш 7 |
|---|---|---|---|---|
| Авёс<br>Турнэпс<br>Бульба<br>Цімафейка | Авёс<br>Турнэпс<br>Бульба<br>Жыта<br>Цімафейка | Авёс<br>Бручка<br>Канюшына<br>Жыта (пшаніца) | Проса<br>Ячмень<br>Бручка<br>Канюшына<br>Пшаніца<br>Цукровы бурак | Проса<br>Ячмень<br>Цукровы бурак<br>Люцэрна<br>Пшаніца |

Такім чынам, маючы такія даныя земляроб можа знайсьці месца для кожнай расьліны на тэй глебе, якая па сваёй кіслотнасьці забясьпечвае найбольшы ўраджай. Канюшына, напрыклад будзе, дрэнна расьці на кіслай глебе (PH—4 або 5), але кіслыя глебы можна скарыстаць аўсом, жытам, турнэпсам, бульбай або цімафейкай.

Пры складаньні севазвароту, разьмеркаваўшы нашы расьліны ў залежнасьці ад іх адносін да кіслотнасьці, мы пры ўсіх іншых аднолькавых умовах будзем мець найбольшы ўраджай. Калі здараецца, што на якім-небудзь вучастку глеба больш кіслая, чым патрэбна, то ёсьць спосабы зрабіць яе менш кіслай, а то і слаба шчолачнай—вапнаваньне.

Але кіслотнасьць глебы можа залежаць ад насяляючых глебу мікробаў і тым можа мець уплыў на рост расьлін.

Ёсьць мікробы—прыяцелі земляроба, а ёсьць яго ворагі, якія самі спажываюць пажыўныя матэрыі глебы. Найбольш цэннымі мікробамі для пасеўных расьлін лічаць: *утвараючых салетру ў глебе, зьбіраючых азот, асяляючыхся на карэньні* матыльковых расьлін. Яны лепш працуюць пры PH глебы 7-7, 5, а ворагі земляроба найлепш адчуваюць сябе (знача шкодзяць) пры больш шчолачнай глебе.

Такім чынам, аграном сваім новым мэтадам можа вызначыць на—колькі ўмовы спрыяюць разьвіцьцю карысных мікробаў. Новы мэтад можа адыграць аграмадную ролю і пры вырабу балот пад пахаць. Раней думалі, што ўсе тарфяныя глебы кіслыя, што іх неабходна вапнаваць. Адгэтуль было шмат памылак і дрэнных вынікаў, якія былі ў нас, як і ў другіх краінах. Цяпер-жа вядома, што некаторыя тарфянікі маюць шчолачную рэакцыю і значыць іх зусім не патрэбна вапнаваць.

[1]) PH—значок для вызначэньня кіслотнасьці або шчолачнасьці.
PH—7 азначае нейтральную рэакцыю; PH—6, 5, 4. . . 1—кіслую; PH—8, 9, 10. . . 14—шчолачную.

Значэньне новага мэтаду ў жывёлагадоўлі, сэлекцыі і іншых галінах самой гаспадаркі надзвычайна вялікае, ім ужо шырока карыстаюцца.

Ён мае значэньне пры асьвятленьні соку буракоў пры здабычы цукру, таксама ў вінаробстве і г. д.

Цікавыя даныя, якія палучаны ў Бэрліне ў дасьледчай лябараторыі па скарыстаньню збожжа. Было выяўлена, што лепшы хлеб выходзіць з цеста кіслотнасьцю PH—5-6; прычым Таганрогская мука дала цеста з PH—5,85 (найлепшае), амэрыканская мука—PH—4,70 (ніжэй нормы).

Зараз заграніцаю складзена шмат глебавых карт па кіслотнасьці, як для цэлых краін (Італія, Швэцыя) так і для гаспадарак.

У працы Швэдзкага вучонага О. Аррэніуса знаходзім, што ў Даніі сяляне-земляробы ўжо купляюць апараты і самі вызначаюць кіслотнасьць сваіх глебаў. Вядома, нам яшчэ далёка да гэтага, але аграномам ужо пара пачаць вывучэньне глебаў Беларусі ў гэтым кірунку. У Беларускай с.-г. Акадэміі шмат якія катэдры купілі патрэбныя апараты і ўжо пачалі такія дасьледваньні (складзены ўжо дзьве карты кіслотнасьці фольв. Іванова і Стэбутаўскага поля). Такое-ж абсьледваньне патрэбна было-б і для ўсіх глебаў Беларусі. Яно напэўна акупіць сябе.

---

Праца па жывёлагадоўлі. У 10 ранейшых акругах зараз праводзіцца паказальнае кармленьне з 1.120 каровамі ў сялянскіх умовах. Кармленьне праводзіцца прыблізна ў 300 пунк. Асыгнавана на гэту справу 10.000 руб.

Паказальная гадоўля цялят праводзіцца з 230 штукамі. Апрача гэтага, організована паказальная гадоўля 100 цялят на конкурс. На гэту справу асыгнавана 3.250 руб. (25-40 руб. на галаву).

Організуюць і праводзяць усю гэту працу раёныя аграномы-зоотэхнікі, якіх зараз на раёнах налічваецца 36.

Перабудова сялянскіх хлявоў будзе праведзена ў 300 гаспадароў. З 15-га лютага г.г. ў г. Віцебску адчыняюцца курсы кантроль-асыстэнтаў. Курсы разьлічаны на 24 чалавекі і працягам у $1^1/_2$ м-цы. Зараз на Беларусі працуе 10 кантроль-асыстэнтаў.

Племяныя выхавальнікі сьвіней. У мінулым годзе лік племяных выхавальнікаў сьвіней павялічыўся з 48 да 82. У выхавальніках было:

| | Кноразаў | Матак | Прадана парасят | Пакрыта матак |
|---|---|---|---|---|
| 1924-25 г. | 63 | 140 | 504 | 435 |
| 1925-26 г. | 100 | 258 | 777 | 1.694 |

Сьвіных злучных пунктаў у 1924-25 г. было 139 (пакрыта 2405 матак); у 1925-26 г.—злучпунктаў 274 (пакрыта 7413 матак).

Адобраных быкоў у 1924-25 г. было 753 (пакрыта 30807 матак); у 1925-26 г.—918 быкоў, якімі пакрыта 35592 маткі. Процант адобраных быкоў цяпер складае 2,8 ад агульнага ліку быкоў (32274), а ў мінулым годзе гэты процант быў 1,7.

Адобраных жарабкоў у 1924-25 г. было 1452, а ў 1925-26 г.—1674 (павялічэньне на 15,3 проц.).

18-25 студзеня адбыўся пашыраны пленум Дасьледчага Бюро пры Інбелкульце. На Пленуме быў заслуханы цэлы

шэраг дакладаў (глебы, клімат БССР, дробнае эканамічнае раёнаваньне БССР і інш.) дзеля дасканалага выяўленьня і акрэсьліваньня тых сельска-гаспадарчых і эканамічных раёнаў, дзе працуюць нашы дасьледчыя с.-г. станцыі. У выніку гэтай працы, апрача ранейшых 5-ці раёнаў азначан яшчэ шосты прадпалескі раён.

Таксама на Пленуме былі заслуханы даклады аб працы нашых дасьледчых станцый. Большасьць дасьледчых станцый (Горацкая, Віцебская, Магілеўская, Турская, Забалацкая балотная гаспадарка) зараз друкуюць, альбо рыхтуюць да друку вынікі сваіх прац.

Адчыненьне Навукова-Дасьледчага Інстытуту сельскай і лясной гаспадаркі імя У. І. Леніна. (26 студзеня 1927 г.). Адчынены Інстытут апрача шырокай навукова-дасьледчай працы на Беларусі ставіць сабе мэтай і зьвязваньне гэтай працы з практычным жыцьцём і пашырэньнем працы Інстытуту сялян-дасьледчыкаў.

---

# ПАШТОВАЯ СКРЫНКА.

**Селяніну Міралевічу Міколу.** 1) К 1930 г. Наркамзем разьлічвае правесьці зямляўпарадкаваньне на плошчы 2.499.251 дзес., а закончыць к 1933-34 г. 2) Каталёгі высылаюцца бяз кошту. Напішыце паштоўку БДВ у Менск (Савецкая 63) або ў Маскву—Изд. „Новая Деревня" (угол Тверской н Моховой улиц).

**Селяніну Бурко М.** Вы няправільна зразумелі „Плуг" 1926 г. (старонка 26-15 радок зьверху). Галоўны ўзятак надыходзе, як закрасуе ліпа, грэчка, сэрадэля, дзятліна, віка, гарох і інш. Паказан час галоўнага ўзятку (віка і гарох нямёданосны).

**Селяніну Бову (Гомельшчына).** Па надасланаму Вамі да рэдакцыі лісту Асобная Колегія Вышэйшага Кантролю затрэбавала справу аб падзеле Вашае маемасьці. Аб выніках разгляду паведамім.

---

**Выданьне Наркамзема** Адк. рэд. **Зьм. Прышчэпаў.**

Рэд. кол. { *Э. Русецкі, Шукевіч, А. Смоліч, Сьц. Тупяневіч.*

# ОФІЦЫЙНЫ АДЗЕЛ.

## Аб умовах колектыўнага карыстаньня дзяржаўнаю зямельнаю маемасьцю.

*(Пастанова Эканамічнае Нарады БССР).*

Для далейшага ўзмацненьня існуючай сеткі колектыўных гаспадарак і гаспадарак, організаваных на землях, якія ўваходзяць у склад дзяржаўнай зямельнай маемасьці, Эканамічная Нарада БССР у зьмену арт. 1, 2 і 7 свае пастановы ад 14 верасьня 1925 г. (збор Зак. БССР 1925 г. № 35 арт. 382) п а с т а н а ў л я е:

1. а) Арэндная плата за зямельныя ўдоб'і і будынкі, як за мінулыя гады, так і на будучы час—адмяняецца, і зямля з будынкамі перадаецца колектыву ў безтэрміновае карыстаньне пры ўмове вядзеньня ім колектыўнае гаспадаркі.

б) пры наліччы ў перадаваемых у карыстаньне колектыўным аб'яднаньням гаспадарак жывога і мёртвага інвэнтару, ён прадаецца колектыву па ацэнцы, з рассрочкай узносу выплаты да 10 год.

в) У выпадку непрадажы колектыўным гаспадаркам жывога і мёртвага інвэнтару, за карыстаньне ім бярэцца арэндная плата: за жывёлу ў разьмеры 6 проц., за простыя сельска-гаспадарчыя машыны і прылады 5 проц. і складаныя машыны і рухавікі—3 проц. іх каштоўнасьці.

г) Арэндная плата за іншыя віды дзяржаўнай зямельнай маемасьці, дадзенай у карыстаньне колектыўных аб'яднаньняў бярэцца ў наступным разьмеры:

д) За сады арэнда бярэцца ў разьмеры ад 5 да 35 проц. валовае прыбытковасьці саду, згодна пастановы Эканомнарады ад 8-га мая 1924 г. (збор. Зак. БССР 1924 года № 6-7 арт. 82).

2) За рыбалоўныя прасторы—1 р. з дзесяціны плошчы іх.

*Увага:* Карыстаньне лясными пасадкамі рэгулюецца Лясным Кодэксам.

2. Усе астатнія артыкулы пастановы ад 14-га верасьня 1925 году заставіць у сіле, акрамя арт. 3 тэй часткі, што датычыцца амортызацыі будынкаў.

Старшынюючы *Яз. Адамовіч.*

Адказны Сэкратар *В. Крывіцкі.*

30 жніўня 1926 г.

## Аб мерах да разьвіцьця пчалярства ў БССР.

СНК зацьверджана Палажэньне аб мерах да разьвіцьця пчалярства ў БССР.

Згодна гэтага Палажэньня, пасечныя гаспадаркі грамадзян, якія вядуць іх асабістай працай, альбо працай сваей сям'і, лічацца працоўнымі і на іх пашыраюцца агульныя законы аб прымяненьні дапаможнай наёмнай працы ў сялянскіх гаспадарках.

Апрача таго працоўным пчаляром, а таксама іх аб'яднаньням даецца цэлы шэраг ільгот—пры зямляўпарадкаваньні пчаляр мае права застацца на месцы альбо атрымаць новы сядібны вучастак у падыходзячым для разьвіцьця пчалярства месцы; лясны матар'ял для вульляў ім будзе давацца па таксах, устаноўленых для сялянства; пасекі пастаўлены пад ахову закона і наўмысная згуба іх караецца ў Крымінальным парадку.

## Аб праверцы вучоту запаснага зямельнага фонду.

Дзеля высьвятленьня сапраўдных разьмераў запаснага зямельнага фонду, Наркамзямляробства прапанаваў усім Акруговым Зямельным Аддзелам зрабіць праверку вучоту яго.

Работа павінна весьціся камеральным шляхам, не перакладаючы яе на райвыканкомы; ніякага новага перапісу гаспадарак, падлягаючых абрэзцы, а таксама і надзяленьню, не рабіць, а ўнасіць папраўкі па падставе ўжо маючыхся даных; высьветліць прыблізную плошчу лясфонду, дзяржмаемасьці і кінутых зямель, якая можа быць разьмяркована сельсаветамі, як прырэзкамі так і організаваньнем груп хутароў, ня звыш 5-ці.

Уся работа па гэтай прапанове павінна быць скончана да 1 Красавіка 1927 году. Аб гэтым НКЗ выдаў цыркуляр ад 8 студзеня 1927 году.

# Выданьні НКЗ:

Штэйнберг. Практычнае гародніцтва . . . . . 60 к.
Проф. Ліскун. Агульная жывёлагадоўля . . . . 80 „
Пачопка. Як узгадаваць і даглядаць сад . . . 20 „
Жыван. Культура кармовых караньплодаў . . . 20 „
Сельское Хоз. Белор. и мероприятия к его восстановлению 30 „
Калікінскі. Лубін і яго культура . . . . . 15 „
Проф. Калугин. Красный белорусский скот . . . 6 „
Проф. Касаткин. О почвах Белоруссии . . . . 10 „
Тупяневіч і Заяц. За лепшую сельскую гаспадарку і с-г. гурток . . . . . . . . . . 25 „
Бойко и Веялкин. Что должен знать переселенец. о Сибири и Д. Востоке . . . . . . . . 30 „
Лайкоў. Аб складаньні пераходных табліц пры пераходзе на шматпольле . . . . . . . . . 25 „
Тупяневіч і Дзямідовіч Тэхніка сялянскага ральніцтва . 30 „
Седашоў. Лесное хозяйство БССР . . . . . 5 „

Перепективный план НКЗ на 1925-30 г. в выпусках:

1. Естественно-исторические и экономические условия развития сельского и лесного хозяйства БССР и основы с-х. политики . . . . . . . . 50 „

2. Мероприятия по землеустройству, переселению, сельскому строительству, мелиорации, культур-технике и торфу 70 „

3. Агрономическая сеть БССР и перспективы ее развития . . . . . . . . . . . 60 „

4. Мероприятия по государственным Земельным Имуществам БССР . . . . . . . . . 80 „

5. Мероприятия по ветеринарии . . . . . 10 „

6. Мероприятия по лесному хозяйству . . . 40 „

7. С-х. кооперация и средства производства в деле развития сельского хозяйства БССР . . . . . 20 „

8. Баланс сельского хозяйства БССР и финансирование на 1925-30 г. . . . . . . . . 25 „

Апрача таго, Выдавецтва НКЗ мае кнігі выданьня Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва і Выдавецтва „Новая Деревня“ навукова-популярнага характару, па ўсіх галінах сельскае гаспадаркі.

Заказы накіроўваць—Менск, Савецкая 71, Выдавецтва НКЗ. Замест грошай можна высылаць паштовыя маркі дробнае вартасьці.